PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 10 (2078) ГОД XLI | БЕЛАСТОК 10 САКАВІКА 1996 г. | ЦАНА 70 грошаў (7000 ст. зл.)

## МЕНШАСЦІ — КРЫТЭРЫІ ДЭМАКРАТЫІ



**Размова з паслом польскага Сейма ад Беластоцкай зямлі — АРТУРАМ СМУЛКАМ (Унія працы)**

*— Спадар пасол, чаму Вы выйшлі з сеймавай Камісіі па справах нацыянальных меншасцей?*

— Гэта было рашэнне не маё, а партыі. Наш клуб скіраваў мяне на працу ў Камісіі ўнутраных спраў. Каб справіцца з усімі абавязкамі мне не хапіла б 24 гадзін у суткі. Але я надалей займаюся меншаснай праблематыкай, ці гэта будзе, скажам, устанаўленне бюджэту Бюро па справах культуры нацыянальных меншасцей, ці беларускія праграмы ў Беластоцкім тэлевізійным цэнтры.

*— Нацыянальныя меншасці, гэта ў маштабе краіны другарадная праблема. Ці патрэбная тут аж спецыяльная сеймавая камісія? Чым яна канкрэтна займаецца?*

— Праблема меншасцей — не другарадная. Ад адносін дзяржавы да меншасцей залежыць тое, ці ёсць у краіне дэмакратыя, ці яе няма. Падставай дэмакратыі з'яўляецца факт, што дзяржава гарантуе нацыянальным меншасцям усе правы. У грамадстве погляды могуць быць розныя, не ўсе могуць нават ведаць пра існаванне меншасцей, але кіраўніцтва дзяржавы мусіць добра арыентавацца ў такіх справах. Дзеля гэтага хаця б патрэбная сеймавая камісія. Узнікла яна ў 1990 годзе як сімвал новых адносін між дзяржавай і меншасцямі, як кампенсацыя за час камунізму, калі, што тут гаварыць, падыход да меншасцей залежаў ад кан'юнктуры. Існаванне некаторых меншасцей увогуле не прызнавалася, напрыклад, за дэкларацыю, што ты немец, пагражалі сур'ёзныя паслядоўнасці. Вялікую ролю ў стварэнні камісіі адыграў Яцэк Курань, выдатны дзеяч дэмакратычнай апазіцыі, аўтарытэт не толькі ў сваім асяроддзі. Камісія, у пэўным сэнсе, спадкаемца поглядаў, якія фармаваліся ў такіх асяроддзях як КОР (Камітэт абароны рабочых). Сёння яна займаецца толькі бягучымі справамі, прапануе бюджэт успомненага Бюро, дапамагае ў вырашэнні канкрэтных праблем. Па-мойму, яна павінна ў сваёй дзейнасці ісці далей, кшталтаваць будучую палітыку дзяржавы адносна меншасцей.

*— А ці такая палітыка цяпер існуе?*

— Аднае кампактнае палітыкі польскай дзяржавы няма. Вядзецца яна ад выпадку да выпадку. Зводзіцца яна да вызначэння бюджэту Бюро па справах культуры нацыянальных меншасцей у Міністэрстве культуры і мастацтва ды фінансавання паасобных мерапрыемстваў. А няма, напрыклад, упаўнаважанага па справах нацыянальных меншасцей у рангзе высокага чыноўніка ва Упраўе Рады Міністраў, які б каардынаваў ініцыятывы розных ведамстваў. А так Міністэрства культуры сабе, Міністэрства адукацыі сабе, а Міністэрства фінансаў яшчэ ў іншую дудку дзьме. Няма апрацаванай стратэгіі паразумення між дзяржаваю і меншасцямі. Цяпер, калі падтрымліваюцца адны ініцыятывы, аўтаматычна паяўляецца пытанне, каму забраць.

*— Як на фоне краіны ацэньваеце Вы сітуацыю ў Беластоку?*

— У нас, як у добрым люстры, відаць усю непаслядоўнасць дзяржаўнай палітыкі. Але відаць таксама слабасць меншаснага асяроддзя. Няма супрацоўніцтва між паасобнымі меншасцямі. Ды і сярод саміх беларусаў няма аднаго голасу ў канкрэтных справах, няма супольных стараннаў хаця б тады, калі ідзе пра грошы.

*— А што вы думаеце пра палітычнае асяроддзе, Вашых калегаў паслоў, гарадскіх радных?*

— Пра самаўрадавыя ўлады Беластока шкада і гаварыць. Шчасце, што гэта не ўлады дзяржавы, бо палітыка ведзеная такімі людзьмі мусіла б скончыцца фатальна. Частка паслоў не хоча мець ніякага дачынення да меншасцей. Але ёсць асяроддзе, якое выразна іграе на пачуццях нацыянальных меншасцей. Мой погляд тут аднaзначны, трэба на час парламенцкіх выбараў ствараць меншасцям курыі, якія б гарантавалі ім сваіх паслоў. Толькі гэта зробіць іх суб'ектамі свайго лёсу і скончыць перадвыбарчую маніпуляцыю меншасцямі. Я, аднак, свядомы, што тыя, якія выступаюць як абаронцы меншасцей, будуць супраціўляцца курыяльнай сістэме, бо яна пазбавіць іх уплываў у гэтым асяроддзі, пазбавіць іх магчымасці маніпуляцы.

*— Якіх пасад у Беластоку не можа займаць беларус?*

— Я змагаўся за тое, каб у нашай краіне не было палітыкі нацыянальнага апартэйда. Аб пазіцыі чалавека могуць вырашаць толькі яго кваліфікацыі, а не нацыянальнасць. Я разумею механізм узнікання ксенафабічных паводзін, але не пагаджаюся на дапушчэнне іх да грамадскага жыцця. Я не патураю неталерантнасці.

*— Паспрабавалі б Вы, з Вашай дасведчанасцю, параўнаць сітуацыю паасобных меншасцей?*

— Нядаўна я ўключыўся ў акцыю дапамогі беластоцкім татарам пабудаваць мячэць. Цяпер бачу, што параўнаць дзве меншасці, татарскую і беларускую, немагчыма. Невялічкая група мусульман, гэта больш культурная з'ява. Яны не прэтэндуюць на ніякую палітычную ролю. А беларусы імкнуцца адыгрываць ролю і ў самаўрадавых, і ў дзяржаўных органах. Гэта добра і зусім натуральна, але непазбежна спараджае канфлікты. Асяроддзе ўкраінцаў на Падляшшы яшчэ іншае, па-мойму, не заўважаецца там з'ява масавай культуры, як у беларусаў. Гэта, так сказаць, асяроддзе больш інтэлектуалізаванае. Украінцы ў цэлым, маюць у Сейме аднаго чалавека, з якім моцна атаясамліваюцца. Я не думаю, каб быў такі чалавек у беларусаў. Немцы, гэта асобнае пытанне. У іх моцнае прадстаўніцтва ў пар-

*Працяг на стар. 4*

*Лена Глагоўская*

## Зіма з „Зоркай” у Бандарах і наваколлі

Цяжка адмовіцца ад працы з дзяцьмі, калі такая нагода здараецца ў ваколіцы нашай „сцяны”, куды дзесятак гадоў таму завітала „цывілізацыя”. Перспектыва развіцця турызму над Семяноўскім вадасховішчам, крыніцай вады для Беластока і не толькі — выглядае цьмяна. Здаецца, што нават не паспелі здзейсніць сваіх дачных мараў былыя партыйныя чыноўнікі. Не прадбачылі, што сістэма вялікіх інвестыцый не вытрымае і ўпадзе разам з яе прыхільнікамі. Ці можа гэта адплата затопленых вёсак і затопленага з імі вясковага жыцця на дне вадасховішча? Помста зменены прыроды і загінуўшых вёсак здавалася быць бачнай і тады, калі вецер дзьмуў ад вадасховішча. Не дапамагала ні цэнтральнае ацяпленне, ні цёплае адзенне, бо холад быў асаблівы, пранізваў да самых касцей, быццам бы не зямны, а з таго свету. Вецер са злосцю адчыняў залепленыя дзверы. Дзіўная магія натуральных сіл. Сюррэалістычным здаўся трохпавярховы гатэль, калі здалёк у цемры і снежнай завірусе бачны былі толькі прыцягваючыя да сябе рассветленыя вокны. Прыпаміналіся страшныя фільмы, калі нешта таемнае цябе кліча, каб паказаць сваю магутнасць і зняволіць чалавека. Зімняя снежная пустэча не дазваляла адрозніць возера ад поля. Усюды снег. Возера замерзла так, што на другі бок нават машыны перапраўляюцца па лёдзе. На возеры сядзяць увесь дзень рыбаловы. Мясцовыя жыхары зжыліся з возерам, хаця кінула яно іх у новую цывілізацыю гарадскіх блёкаў. Нармальнай з'явай сталі тапельцы. Людзі са спакоем гавораць аб тых, якіх праглынула бязлітасная вада. Думкамі яны аднак у сваіх старых вёсках, хатах... Возера забрала ім самае роднае: хату, хлеў, калодзеж, панадворак, поле. На пытанне, як жывецца ў блёках, дзядзька адказвае: „А хутчэй бы ўжо ў Юшкаў Груд” (там парафія і мясцовыя могілкі). Сучасная, блёкавая цывілізацыя неяк нікога не захапляе. Людзі навучыліся новых каардынатаў (нумароў блёкаў, пад'ездаў, кватэр) сваіх даўніх суседзяў. Жывуць, асабліва найстарэйшыя, даўнімі ўспамінамі. Лепшым здаецца ім нават жыццё ў бежанстве ці пры панскай Польшчы. Як той дзядзька з Рудні, што ўспомніў,



як гэта немцы ў час I сусветнай вайны капалі руду для вырабу жалеза і высылалі яе ў Нямеччыну. У яго аповедах праклён „каб іх ваўкі з'елі” гучыць вельмі прыстойна ў адносінах да ўсіх, якіх здзек над тутэйшым людам быў бязмежны.

Самое вадасховішча не выконвае ролі турыстычнага заплечча Беластока. Проста, вада брудная. У большасці людзі прыязджаюць на суботу і нядзелю лавіць рыбу. Пра малую прыцця-

*Працяг на стар. 4*

## МЫ ПРАЧЫТАЛІ

*Wieloletni działacz BTSK Włodzimierz Juźwiuk stwierdził, że według jego szacunkowych obliczeń w północno-wschodniej Polsce mieszka około 370 tys. Białorusinów... Z badań, jakie przeprowadził na własną rękę Jan Syczewski, wynika, że zaledwie 1,8 proc. rodzin białoruskich w Białymstoku rozmawia ze sobą w rodzimym języku.*

*Gazeta w Białymstoku, nr 36*

Першая інфармацыя — аптымістычная, другая — не надта.

***

*Profesor o. Bocheński opublikował przed kilku laty w „Kulturze" artykuł omawiający świadomość narodową Polaków. Zdaniem profesora tylko niewielka część społeczeństwa ma pełną świadomość narodową; większość obywateli ma jedynie świadomość podstawową, ograniczoną do poczucia pewnej wspólnoty i wspólnego miejsca na ziemi, języka i obyczajów. Wszystkie uwarunkowania historyczne, kulturowe i polityczne obejmuje pełna świadomość ludzi wykształconych. Większość społeczeństwa nie interesuje się ani historią, ani kulturą, ani polityką. Tak zwani prości ludzie żyją sprawami dnia codziennego i jedynie sporadycznie, powierzchownie i często błędnie oceniają zachowania polityków i ich programy. Irytacja polskich inteligentów na „głupi naród" jest śmieszna, emocjonalna i źle świadczy o poziomie inteligencji. Demonstrowanie inteligenckiej megalomanii, jakby Polska była ojczyzną wyłącznie inteligentów — prowadzi donikąd.*

*Gazeta Wyborcza, nr 37*

А што было б, калі б масавую культуру і нацыянальную адукацыю палякаў нехта абмежаваў толькі да фэстынаў? Беларусы ў гэтым кантэксце паводзяць сябе згодна з пануючай грамадскай псіхалогіяй.

***

*W historii Polski Grodno pozostaje miastem ważnych wydarzeń. Wędrując ulicami tego miasta, czujemy się jak u siebie, niemal jak w Białymstoku. Polacy mieszkający na Grodzieńszczyźnie już przyznają się do swojej narodowości, a rozszerzenie nauki języka polskiego powoduje, że młode pokolenie znów czuje się Polakami. Kiedy w 1988 r. Związek Polaków na Białorusi zaczynał swoją działalność, trudno było zebrać dzieci do dwóch klas z językiem polskim. Obecnie w ponad 300 szkołach na Białorusi prowadzona jest nauka języka polskiego. Aktualnie 700 osób — Polaków z Białorusi — kształci się na uczelniach w Polsce. Liczącą się instytucją w odradzaniu polskości jest Kościół rzymskokatolicki. Dla upowszechnienia kultury polskiej, historii, a także języka bardzo dużo czyni polski tygodnik „Głos znad Niemna". Ukazuje się on w 10-tysięcznym nakładzie przy wsparciu finansowym Ministerstwa Kultury Republiki. W niektórych rejonach ma więcej prenumeratorów niż pisma ukazujące się w języku białoruskim i rosyjskim.*

*Gazeta Współczesna-Monitor Białostocki, nr 29*

***

*Organizacja „Obrońcy praw mniejszości ukraińskiej w Polsce" została zakwalifikowana do programu sponsorowanego przez Amerykańską Agencję do Spraw Międzynarodowego Rozwoju Sieci Demokratycznej.*

*Jest to agencja waszyngtońska działająca w Polsce. Na realizację programu przeznaczyła około 2 mln dolarów.*

*Przegląd Prawosławny, nr 2*

***

*Прэзідэнт Беларусі лічыць магчымым стварэнне на аснове Беларусі і Расіі саюза дзвюх дзяржаў, якога не бачыў свет, яшчэ больш магутнага, чым Савецкі Саюз. Расія, па словах А. Лукашэнкі, без рэспублік былога СССР — як тулава без ног, без рук і без галавы, —* піша прэзідэнцкая газета

*Звязда, н-р 34-35*

***

*Прэзідэнт Лукашэнка рыхтаваўся да ўдзелу ў эканамічным форуме ў Давосе. На форум з'язджаюцца буйнейшыя прамыслоўцы і бізнесмены свету. У Давосе заключаюцца найбольш буйныя эканамічныя дамовы. Прычына, па якой Лукашэнка вымушаны быў адмовіцца ад замежнага турнэ, нечаканая, але прадказальная: усе найбольш вядомыя замежныя прадстаўнікі, каму была запрапанавана сустрэча з беларускім прэзідэнтам, пачуўшы прозвішча Лукашэнка, катэгарычна адмаўляліся ад спаткання.*

*Свобода, н-р 8*

***

*Część polityków polskich powinna zasięgnąć porady seksuologa, bowiem po nocach zamiast dziewczynek śni się im Lech Wałęsa. Mają oni obsesję na punkcie Wałęsy, i z tym problemem nie mogą sobie poradzić,* — сказаў былы міністр замежных спраў РП Анджэй Аляхоўскі.

*Polityka, nr 7*

***

*Plaga fałszerstw dokumentów dotknęła w Polsce wszystkich dziedzin życia publicznego. Trudno dziś znaleźć gazetę bez informacji o kolejnych poszkodowanych instytucjach i obywatelach, nielegalnych drukarniach dokumentów. Za parę milionów starych złotych fałszerze wyprodukują nam „nowy" dowód osobisty, banknoty, prawo jazdy, paszport, dokumenty celne, policyjną legitymację, czeki, recepty i pieczątki każdej instytucji. Dzięki fałszerstwom możemy zostać inżynierem lub doktorem, możemy pracować i jednocześnie brać zasiłek dla bezrobotnych, kierować autem, choćby policja zatrzymała nam prawo jazdy, kupić tańsze leki na uprzywilejowane recepty, „zalegalizować" ukradziony samochód, posiadać dwie żony, które na papierze mogą zajść w ciążę...*

*Polityka, nr 7*

Лозунг: „Тэхніка ў службе чалавецтва" стаў рэчаіснасцю.

***

*Tajwan ma 21 mln mieszkańców, a więc 55 razy mniej niż Chiny, ale jego produkt globalny sięga połowy chińskiego.*

*Wprost, nr 7*

Кітай паспяхова будуе рыначны сацыялізм і ў гэтай галіне з'яўляецца вядучай сілай.

## З МІНУЛАГА ТЫДНЯ

**Архіепіскап Беластоцкі і Гданьскі Сава**, праваслаўны ардынарый Войска Польскага быў госцем прэзідэнта РП **Аляксандра Квасneўскага**. Галоўнай тэмай гутаркі былі справы душпастырскай дзейнасці Праваслаўнага ардынарыята, а таксама ўмовы дзейнасці Праваслаўнай Царквы ў Польшчы. Цяпер у Войску Польскім служыць каля 15 тысяч праваслаўных салдат.

**Праваслаўны ардынарый Войска Польскага архіепіскап Сава** спадарожнічаў віцэ-міністру нацыянальнай абароны **Анджэю Каркоцшы** падчас візіту ў Міністэрства абароны Грэцыі. У ходзе візіту ўладыка Сава сустракаўся з архімандрытамі Цімафеем і Мікалаем — ардынарыямі ўзброеных сіл Грэцыі, азнаёміўся з душпастырскай працай у некаторых гарнізонах і наведаў палявыя храмы.

**16 пачатковых школ** хочуць ліквідаваць у сваіх гмінах войты і бурмістры з Беластоцкага ваяводства з увагі на кошты іх утрымання. Кураторыя асветы ў Беластоку прыхіляецца да 8 прапаноў, у 4 справах ставіцца адмоўна, у 2 выпадках прапануе кампрамісное вырашэнне, а астатнія 2 справы асветнай адміністрацыяй яшчэ вывучаюцца. У першую чаргу будуць ліквідаваны малыя школы і філіяльныя пункты, напрыклад, у Крушыне (гм. Крыпна), Бацікаx-Сярэдніх (гм. Сямятычы), Жуках (гм. Саколка), Вейках (гм. Гарадок), Грабаўцы (гм. Дубічы-Царкоўныя), Талькоўшчыне (гм. Шудзялава) ці Палічнай (гм. Кляшчэлі). У Боцькаўскай гміне мабыць дойдзе да кампрамісу і з прадугледжаных да закрыцця школ у Нурцы і Красным Сяле кураторыя прапануе ўтрымаць толькі гэтую першую. Куратар не згаджаецца яшчэ на закрыццё дзіцячага садка ў Мілейчычах, паколькі гэта адзіная дашкольная ўстанова ў гміне.

**Рамесніцкія прэзентацыі'96** — так называўся кірмаш, прысвечаны дробнаму прадпрымальніцтву. Свае тавары прывезлі ў Беласток 70 айчынных фірм і рамеснікі з Беларусі і Расеі. Найлепшыя рамесніцкія вырабы ўзнагароджваліся статуэткамі „Беластоцкага зубра", а адным з лаўрэатаў стаў **Анатоль Зельберг** з Гродна *(інтэрв'ю з беларускім рамеснікам чытайце на стар. 3)*. З нагоды кірмашу выйшла друкам каляровае інфармацыйна-рэкламнае выданне „Кантакты" на беларускай мове.

**У горадзе Рын** уласнік прыватнай фірмы знішчыў у 1993 г. невялікі **яўрэйскі могільнік**, які знаходзіўся на купленай ім дзялянцы. Раённая пракуратура ў Гіжыцку спыніла расследаванне справы з прычыны „адсутнасці складу свядомага злачынства". Справай зацікавіўся **Саюз яўрэйскіх гмінаў**, які патрабуе вярнуць могільнік і перадаць яго саюзу пад апеку. Аднак невядома, ці такое патрабаванне будзе задаволена, паколькі падчас „парадкавання грунту" прапалі ўсе надмагільныя пліты.

**Кантрабанду ікон** выявілі мытнікі з Кузніцы-Беластоцкай ў цягніку Гродна—Гдыня. У багажы жыхаркі Беластока былі знойдзены 21 металічная адзіночная, 17 трохстворкавых і адна чатырохстворкавая іконы ды 22 металічныя крыжы.

**Беластоцкі „прадпрымальнік"** Эдвард Б., які аказаўся звычайным ашуканцам, трапіў у судовую залу, дзе абвінавачваецца ў вымантаванні грошай прынамсі ад двух чалавек — паляка і беларуса. Першаму не паставіў ён 400 тон цукру, хаця ўзяў за гэта грошы. А грамадзяніну Беларусі **Ігару Р.** абяцаў даставіць 9 аўтамабіляў маркі „Лада" за 90 тысяч марак. Ашуканы беларус пайшоў са сваёй бядою ў пракуратуру і спыніў такім чынам абманныя здзелкі кемлівага беластачаніна.

### ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У "НІВЕ"


- Чаму згарэла Патока — яшчэ адна карта трагічнай гісторыі Беласточчыны саракавых гадоў.
- Скарбы Слуцкай зямлі.
- Як „Ніва" святкавала свой юбілей.


## ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

### Палітык з цвярозым розумам

Падчас сустрэчы прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі са старшынёй Федэрацыі прафсаюзаў Уладзімірам Ганчарыкам абмяркоўваліся праблемы ўмацавання стабільнасці ў грамадстве, грамадзянскай згоды, а таксама прынцыповае пытанне гарантавання сацыяльнай засцярогі грамадства ва ўмовах крызісу. Прэзідэнт пацвердзіў свой намер зрабіць больш жорсткім патрабаванне з кіраўнікоў усіх узроўняў, нягледзячы на пасады, за своечасовасць выдачы пенсій, зарплат і сацыяльных дапамог. Падкрэсліў ён таксама, што кожны палітык з цвярозым розумам, які сапраўды клапоціцца за свой народ, павінен разумець, што шлях да паляпшэння жыцця трэба шукаць не ў палітыканстве, а ў выпраўленні трагічных памылак мінулага, у аднаўленні разбураных вытворчых сувязей, у рэальнай інтэграцыі з Расеяй і іншымі краінамі СНД, у бескампраміснай барацьбе з карупцыяй і нарэшце, у сумленнасці і дастойнасці кожнага кіраўніка. Кіраўнік дзяржавы і старшыня прафсаюзаў дасягнулі дамоўленасць і ўзаемаразуменне ў неабходнасці ўмацавання сувязей усіх узроўняў улады з працоўнымі калектывамі. Лукашэнка запатрабаваў, каб кіраўніцтва Кабінета Міністраў, міністры і іншыя вышэйшыя службовыя асобы штомесяц сустракаліся з вытворчымі і сельскімі калектывамі, на месцах вывучалі і вырашалі праблемы працоўнага чалавека.

### Асвойванне банкаў

Прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка мае намер унесці на разгляд Вярхоўнага Савета прапанову аб вызваленні Нацыянальнага банка з-пад справаздачнасці парламента ў падначаленне яго прэзідэнту. Аб гэтым Лукашэнка заявіў у ходзе сустрэчы з калектывам Нацбанка, прысвечанай назначэнню на пасаду яго кіраўніка Тамары Віннікавай. Прэзідэнт наведаў таксама працоўны сход Акцыянерна-ашчаднага банка „Беларусьбанк". Мэта візіту — прызначэнне на пасаду старшыні гэтага банка Надзеі Ермаковай, якая прыняла кіраўніцтва пасля Тамары Віннікавай. На пасаду кіраўніка „Беларусьбанка" разглядалася восемь кандыдатур. Надзею Андрэеўну Ермакову сам прэзідэнт ведае амаль дванаццаць гадоў і гэты факт таксама паўплываў на яе прызначэнне. Прэзідэнт сказаў, што гэта не апошняе прызначэнне ў банкаўскай сферы.

### Рэакцыя нардэпаў

Востра адрэагаваў дэпутацкі корпус на ўказ прэзідэнта аб прызначэнні старшынёй Нацыянальнага банка Тамары Віннікавай, паколькі вырашэнне гэтай справы належыць кампетэнцыі Вярхоўнага Савета. Дэпутат Генадзь Бухвостаў выказаў заклапочанасць станам канстытуцыйнай законнасці ў рэспубліцы, а дэпутат Віктар Ганчар падкрэсліў, што прызначэнне Тамары Віннікавай і яе першага намесніка ўказамі прэзідэнта супярэчыць канстытуцыі і закону аб Нацыянальным банку РБ. У выніку дэпутаты разгледзелі пытанне старшыні Нацбанка і прынялі пастанову, згодна з якой старшынёй Нацбанка павінен быць Мікалай Кузьміч, які выконваў гэтыя абавязкі пасля адыходу ў адстаўку Станіслава Багданкевіча.

### Лідскія раскольнікі

28 студзеня г.г. ў Лідзе была высвячана без удзелу афіцыйных духоўных улад царква св. Панцеляймона. У Менск высланы быў толькі афіцыйны ліст за подпісам некалькіх соцень вернікаў, у якім яны заявілі аб выхадзе абшчыны з-пад юрысдыкцыі Беларускага экзархата Рускай праваслаўнай царквы. Мошчы св. Панцеляймона былі прывезены непасрэдна з Грэцыі. Лідскі Панцеляймонаўскі прыход наладзіў сувязь з Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквой у замежжы.

### Шпіталь у казарме

Казармы былога ваеннага гарадка ў Сасновым Лесе пад Бабруйскам паслужаць ахове здароўя. Будаўнікі прыступілі да іх рэканструкцыі. Вырашана тут размясціць анкалагічны дыспансер.

### Ордэны з „Крышталя"

Высокі гонар аказаны калектыву Гомельскага аб'яднання „Крышталь". Туды паступіў заказ на выраб урадавых узнагарод. Ужо да сярэдзіны сакавіка спецыялісты падрыхтуюць узоры беларускіх ордэнаў, якія будуць вырабляцца з каштоўных металаў. Ювелірная вытворчасць тут — адзіная ў сваім родзе ў Беларусі.

### Прыбытковае донарства

З новага года значна павялічылася колькасць донараў на Гомельшчыне. Прычына не ў абуджаным сумленні грамадзян і жаданні дапамагчы хворым, а ў празаічным факце — павысіўся кошт донарскай крыві. Здаўшы яе двойчы ў месяц, можна зарабіць амаль 700 тысяч рублёў. Улічваючы затрымкі з выдачай зарплаты, для некаторых сем'яў донарства — сённяшняя адзіная крыніца даходу. Таму нярэдка станцыі пералівання крыві не могуць прыняць усіх жадаючых.

# Музей будзе...

22 лютага 1996 г. беластоцкі віцэ-ваявода Гжэгаж Рыкоўскі, старшыня Камітэта пабудовы музея ў Гайнаўцы Кастусь Майсеня і старшыня БГКТ Ян Сычэўскі падпісалі пагадненне-дамову, якая ў пэўным сэнсе вырашае будучыню Музея. Паводле падпісанай дамовы будзе ён дзяржаўнай установай пры захаванні ўласнасці будынкаў за Камітэтам і ўласнасці зямлі, на якой яны стаяць, за Таварыствам. Ваявода выступіць з прапановай у Раду Міністраў Рэчы Паспалітай, каб тая адвяла адпаведныя сродкі ў бюджэт Ваяводскай управы, якія будуць пасля накіраваны на фінансаванне мерытарычнай дзейнасці Музея і коштаў яго эксплуатацыі. Ваявода падрыхтуе статут Музея і звернецца ў Міністэрства культуры і мастацтва, каб занесці яго ў спісак дзяржаўных музейных установаў Беластоцкага ваяводства. Захаваная будзе форма кансультацыі ваяводы з уладамі Камітэта і Таварыства пры распрацоўцы статута і вырашэнні кадравых пытанняў. Ваявода выступіць таксама да ломжынскага ваяводы з патрабаваннем вярнуць экспанаты з музея ў Цеханоўцы, якія раней былі ў Беларускім музеі ў Белавежы. Камітэт і Таварыства паводле дамовы аддадуць у карыстанне ваяводы (użyczenie) будынкі А і Ц, дзе арганізаваны будуць выстаўкі экспанатаў. Гэтыя ўстановы распрацуюць таксама праект пастаянных экспазіцый. Дамова заключана на неакрэслены час і кожны з бакоў можа яе скасаваць, папераджаючы аб гэтым партнёраў на 6 месяцаў раней.

Кастусь Майсеня паінфармаваў нас, што Музей астаецца ў руках беларусаў, а прытым з'яўляюцца перспектывы хуткага завяршэння яго пабудовы, асабліва таму, што з Беларусі пастаянна плыве дапамога ў выглядзе будаўнічых матэрыялаў.

рэд.

# Дзесяць тысяч подпісаў

Пры канцы мінулага года Беларускі саюз у Рэчы Паспалітай вырашыў звярнуцца да кіраўніцтва Радыёвяшчання і тэлебачання з просьбай павялічыць час радыё- і тэлеперадач на беларускай мове. Найлепшым аргументам у такіх сітуацыях ёсць адпаведная колькасць подпісаў асоб зацікаўленых такім вырашэннем справы. Іх збор пачаўся на пачатку студзеня 1996 г. і ў палове лютага Управа Беларускага саюза мела ўжо больш за 10 тысяч подпісаў у падтрымку ініцыятывы.

21 лютага 1996 г. старшыня Беларускага саюза ў РП Яўген Вапа і сакратар Юры Каліна склалі на рукі віцэ-старшыні Польскага тэлебачання Януша Дашчынскага і дырэктара Бюро тэрытарыяльных аддзелаў Тамаша Сімоняка адпаведныя дакументы разам з 10 тысячамі подпісаў беларусаў Беласточчыны.

Праз нашае пасрэдніцтва Управа Беларускага саюза ў Рэчы Паспалітай выказвае падзяку ўсім тым, што дапамагалі ў паспяховым зборы подпісаў.

рэд.



*Момант уручання подпісаў. Злева: Юры Каліна, Томаш Сімоняк, Януш Дашчынскі і Яўген Вапа.*

## Набіваюць у бутэльку!

Патрэбны быў мне воцат для кулінарных спраў. Пайшоў я ў чаромхаўскую краму „У Галіны", якая працуе каля рыначка. Воцат ёсць, аднак у замен парожняй пасуды не бяруць.

Такі ж адказ прадаўшчыцы пачуў я і ў фірмовай краме кляшчэлеўскай каўбаснай „Нэрэтва", якая знаходзіцца побач. Толькі ў краме Янкі Ліпінскага, якая працуе ў колішнім рэстаране „Прыгранічная", купіў воцат, пакідаючы ўзамен парожнія бутэлькі.

Ці ж гэта не абдурванне або, як гавораць палякі, набіванне кліента ў бутэльку? Воцат прадаўцы на складах бяруць у фальгавых упакоўках. Бяруць залог за пасуду па 1 000 старых злотаў. А ты пасля чалавеча што хоч рабі з парожняй пасудай. У Чаромсе няма пункта скупкі шклатары.

Быццам дробязь — аднак ёсць праблема. У цяперашняй рыначнай эканоміцы кожная залатоўка чалавеку дарагая. Варта аб гэтым памятаць паважаныя гандляры!

(ус)

## БАС ЗАПРАШАЕ!

Беларускае аб'яднанне студэнтаў запрашае членаў і прыхільнікаў на VIII з'езд БАС, які адбудзецца 9 сакавіка г.г. у будынку філіяла ВУ у Беластоку, вул. Складоўскай, 14 (зала Сената — 208) а 10.00 гадзіне.

# Рамеснік-мастак

**Анатоль Зельберг** з Гродна атрымаў за вырабы са скуры адну з ліку першых узнагарод (статуэтку зубра) на кірмашы „Рамесніцкія прэзентацыі'96", які праходзіў у Беластоку ў днях 22—24 лютага 1996 г.

**„Ніва"**: *— Ці ведзяце Вы ў Гродне сваю фірму?*

**Анатоль Зельберг**: — Гэта не фірма, а мастацкая майстэрня. Ёсць дзіцячая студыя, дзе вучу дзяцей працаваць са скурай, ёсць дарослая студыя і некалькі чалавек робіць такія рэчы.

*— Ці лёгка прыходзіцца быць рамеснікам у Беларусі?*

— Вельмі цяжка. Многа цяжкасцей з матэрыяламі, з майстэрнямі. Усё ж такі прабуем.

*— Ці дзяржаўная палітыка спрыяе рамяству?*

— Мы дапамогі не адчуваем, хутчэй наадварот. Падаткавая палітыка такая, што развівацца малому рамяству цяжка. Вельмі цяжка мець памяшканні для майстэрні. Дзяржава небагатая, ёй выгадней здаваць памяшканні туды, адкуль прынясуць больш грошай. Мы не можам многа плаціць. Таму маем праблемы з майстэрнямі.

*— Ці ёсць усё-такі нейкія станоўчыя з'явы?*

— Праводзяцца фестывалі, кірмашы, дзе можна нешта пабачыць, пачуць. Апрача таго нам памагаюць канкрэтныя арганізацыі, з якімі падтрымоўваем кантакт. Цяпер стала крыху лягчэй з матэрыяламі. Ужо можам свабодна купіць скуру. Нейкія зрухі, безумоўна, ёсць.

*— Якое значэнне мае для Вас побыт тут, у Беластоку?*

— Мы крыху інакш уяўлялі сабе гэту выстаўку. Паняцце рамеснік абазначае ў нас кагосьці, хто робіць рукамі. Мы думалі, што тут збяруцца такія ж як мы, саматужнікі. Таму мы чакалі пабачыць такіх як мы, пазнаёміцца і заключыць магчымыя дамовы. Хацелі таксама паглядзець, як нашы вырабы ўспрымуцца на польскім рынку. Усётакі ёсць нейкія пагадненні, ёсць цікавыя прапановы, так што ўсё магчымае...

*— Дзякую і жадаю поспехаў у вашай працы.*

Гутарыў
**Алег Латышонак**

# Звяду ўсё ваша племя!

Цела Івана К. знайшлі непадалёк святой гары Грабаркі. Нябожчык з пасечаным тварам ляжаў у густой, чарнеючай калюжы крыві. У паветры разносіўся пах жудаснага морду. Некта ўспомніў, як дакладна год назад Івана К., у гэтым жа самым месцы, пабіў Харытон Дарожны, сусед, швагер і адвечны вораг ахвяры. Ніхто і зараз не падумаў, што віноўнікам злачынства можа быць нехта іншы.

* * *

Дарожны і Надзея К. пазнаёміліся ў адным з калгасаў у былой Усходняй Прусіі. Было гэта ў поўныя лозунгаў і яркай сімволікі 50-ыя гады. Маладыя шукалі тут шчасця, жыццёвай прасторы і светлай будучыні. Знаёмства завяршылася хрэсьбінамі і шлюбам. Пасля некалькіх месяцаў „прускага" эпізоду Надзея К. шкадавала свайго рашэння.

Дарожны валачыўся з прастытуткамі, п'янстваваў, здзекаваўся або ўцякаў на доўгія месяцы з хаты.

Абрыдла Надзі такая доля і рашыла вярнуцца ў родную вёску. Там былі свае людзі, родны брат і кавалак неблагой зямлі. За ёй прыплёўся ў Ш. муж.

Брат Надзеі, Іван К. шкадаваў сястру. Прыняў яе з дваімі ўжо дзеткамі і беспрацоўным мужам, пад свой дагледжаны дах. І з гэтай пары пачаўся саракагадовы канфлікт Івана К. з Дарожным.

— Папала каса на камень, — прыгаворвалі аднавяскоўцы.

Пасля двухгадовага скрыгату Іван К. перасяліўся ў новую, толькі што накрытую мураванку. Пасярэдзіне сунольная пляца вырас плот, а разам з ім — варожасць і нянавісць.

— Дарожны кідаў у нас камянямі, біў гаршкі, — успамінае Сцепаніда К., жонка замардаванага Івана.

— Іван зааразу маю мяжу, — наракаў па вёсцы Дарожны.

У Ш. не верылі Дарожнаму. Нягледзячы на яго бойкасць і адкрытую пагарду для жанчын, лічылі яго звычайнай навалачу.

— Я сын казака, — напамінаў ціхім, заблытаным у свае праблемы аўтахтонам, падляшукам.

Пра казацкую мінуўшчыну Харытона Д. напаміналі пышныя вусы, скураныя боты „афіцэркі" і сякерка, заткнутая за вайсковы паясок. Аднак найбольш каментарыяў выклікаў жыццёвы стыль Дарожнага. У цэлай гміне ведалі і баяліся гэтага дзядзькі. Нават паліцаям даваліся ўцякаць перад яго-най сякеркай. Дарожны не запэцкаў сабе рук халопскімі справамі.

— Адно, што ўмеў, гэта скасіць траву, прадаць і прапіць, — дзіваваліся вяскоўцы. — Або гандляваць ландышам. А калі знайшоў працу, то хутка яе кідаў. Усё жыццё гадавала яго Надзея К.

Пад канец 70-х гадоў нешта змянілася. Дарожнага пасадзілі ў турму за здзек над сям'ёй. Падумала Надзея К. пра сваё жыццё. Процьма працы, дарастаючыя дзеці падштурхнулі ёй думку выйсці яшчэ раз замуж. Жанчына развялася з Дарожным і пачала новае жыццё з чалавекам з суседняй вёскі. Але яе шчасце доўга не трывала. Калі Дарожны вярнуўся ў Ш., новы муж Надзеі К. павесіўся. Жанчыне прыйшлося зноў жыць з былым мужам пад адным дахам. Усё поле, сядзіба былі бацькоўскія, яе і братавы. Зямлю трэба было абрабляць да пенсіі, вучыць дзяцей.

У „супольнай" хаце Надзея і Харытон Дарожны падзяліліся маёмасцю. Экс-муж заняў адзін пакой, а два іншыя асталіся для Надзеі і дзяцей.

— Калі трэба было ісці ў поле, бацька ляжаў у ложку, — успамінае сын, які зараз змяніў сабе прозвішча.

90-ыя гады прынеслі чарговае няшчасце. Дачка Надзеі з дваімі дзяцьмі вярнулася да маці. Яе сужонства таксама аказалася памылковым рашэннем. Усё часцей Надзея і дачка пачалі заглядаць у кілішак. Пасля гэтага ў хаце раздаваўся ломат. Гэта Харытон Д. наводзіў свае парадкі. Лупцаваў жонку, кідаўся з кулакамі на швагра, Івана К., біў кожнага, хто яму супрацьстаўляўся. Дарожны, як ніколі раней, пачаў з Іванам К. змагацца „за сваё". Гарадзіў платы на шваграных лугах, капаў раўчукі на засеяных палях, сам вызначаў тэрыторыю свайго каралеўства. Усё больш і больш часу праводзіў у лесе. Швэндаўся там цэлымі днямі.

Як чорнае прароцтва разышлася ў Ш. навіна: Дарожны спаліў свае іконы.

— Цяпер, — гадалі жанчыны, — пусціць з дымам лес, вёску або кагосьці заб'е.

* * *

Была сонечная, імглістая раніца. Як штодзень Іван К. гнаў сваіх кароў на пашу. Луг знаходзіўся ў трох кіламетрах ад вёскі. Побач сядзібы Дарожнага ўспыхнула сварка. Харытон Д. лаяў швагра і пачаў біць кароў. Сварка хутка заціхла, але многія вяскоўцы бачылі, як Харытон Д. рушыў у пагоню за Іванам К. Абое зніклі ў акаляючым Ш. лесе.

У той самы дзень Дарожны падаўся ў Варшаву. Івана К. знайшлі мёртвага на другі дзень.

Памыляліся тыя, што разлічвалі на хуткі канец Дарожнага. Абвінавацілі яго, праўда, у злачынстве, але няма доказаў, каб пасадзіць яго ў турму.

У Ш. не спяць па начах. Асабліва надзея К. і ўдава-суседка. Памятаюць яны адвечныя пагрозлівыя словы Дарожнага: „Заб'ю вас усіх, звяду ўсё ваша племя".

Паводле судовага псіхіятра Харытон Д. здаровы. Няма прычын яго баяцца. У абвінавачанага назіраецца адно паталагічныя рысы індывідуальнасці. Сам Дарожны безупынна сябе хваліць: „Я чалавек правы, я чалавек чысты".

**Ева Сцепанюк**

P.S. Імёны і прозвішчы персанажаў зменены.

## МЕНШАСЦІ — КРЫТЭРЫІ ДЭМАКРАТЫІ

*Працяг са стар. 1*

ламенце і падтрымка з Нямеччыны. Адным словам, сітуацыя паасобных меншасцей непараўнальная.

*— Вы былі на фестывалі „Беларуская песня'96". Якія Вашы ўражанні?*

— Найбольш трывалае маё ўражанне гэта тое, што я прызнаў узнагароду вельмі прыгожай дзяўчыне, якая спявала, безумоўна, найлепш. На фестывалі беларускай песні быў я другі раз і, думаю, усё о'кей. Гэта адна з найважнейшых імпрэзаў нацыянальных меншасцей у краіне.

*— Ці таму, што прысутнічалі на ёй прэм'ер-міністр, віцэ-маршалак Сейма ды віцэ-прэм'ер Беларусі?*

— Пра ўзровень вырашаюць не госці, а толькі ўдзельнікі. Але гэта імпрэза важная, бо запускае ў ход механізм. Да фіналу вядзе дарога праз элімінацыі, да працы падключаюцца розныя людзі, узнікае ініцыятыва знізу. Адно, што мне не падабалася, гэта палітычная дэманстрацыя. Каб на ёй беларусы добра выйшлі.

*— Дазвольце яшчэ адно асабістае пытанне. Вы ў гэтым скліканні Сейма, безумоўна, адзін з больш актыўных паслоў. Ці лёгка выйсці наперад іншых, колькі гэта каштуе?*

— Гм, колькі гэта каштуе, найлепш спытацца ў маёй жонкі. Хаця мне 29 гадоў, я ў палітыцы сяджу ўжо прынамсі ад 1987 года. З такой цягай да палітыкі трэба, відаць, нарадзіцца. Я думаю, што дасягнуць пэўную пазіцыю дапамагае мне мая паслядоўнасць і, хіба, даволі эфектыўная дзейснасць. Ну і я лічу, што апынуўся ў добрай фірме.

*— Дзякуй за размову.*

Інтэрв'ю ўзяў
**Мікола Ваўранюк**

## Загінулі за...

Пра вёску Рахвалаўку, што ў Заблудаўскай гміне, не надта часта згадвалася ў „Ніве". Хаця каля 10 працэнтаў яе жыхароў гэта беларусы, але нічога там асаблівага не дзеялася, што магло б прыцягваць увагу журналістаў нашага тыднёвіка. Паехаць у Рахвалаўку неяк прымусіла мяне вестка пра загінуўшых у ліпені 1941 г. васьмярых беларусах, жыхарах гэтае вёскі. Немцы расстралялі іх у Пратасах, мясцовасці ў сямі кіламетрах ад Рахвалаўкі. Чаму менавіта немцы расстралялі толькі беларусаў, калі былі яны там у знакамітай меншасці? Зацікаўленне маё было тым большае, што пра гэтае здарэнне не знайшоў я ніякай весткі ў прысвечаных злачынствам гітлераўскіх акупантаў на Беласточчыне дэталёвых распрацоўках такіх аўтараў як Вальдэмар Монкевіч, Юзэф Кавальчык ці Аляксандр Амільяновіч. У шматлікіх публікацыях гэтых аўтараў можна знайсці інфармацыю пра кожную спаленую хату, пра кожнага пабітага паліцаямі селяніна.

У Рахвалаўцы цяжка было адшукаць кагосці, хто хацеў бы расказаць пра трагедыю, якая здарылася 55 гадоў таму. Засцерагаючы ананімнасць, трох жыхароў вёскі вырашыла выявіць таямніцу, пра якую ведаюць усе ў найбліжэй ваколіцы, але ніхто не хоча пра яе гаварыць.

Было гэта два тыдні пасля адступлення саветаў у чэрвені 1941 г. Нехта склікаў сход жыхароў вёскі, на якім з'явілася каля дваццаці ўзброеных нямецкіх салдат. Адзін з мясцовых адчытаў прозвішчы 11 жыхароў вёскі, аднак трох з выкліканых было непрысутных. Тыя, якія прыйшлі на сход і якіх прозвішчы значыліся ў спіску, зараз былі арыштаваны. Усе яны былі беларусамі. Сход на гэтым закончыўся, астатнім немцы загадалі разысціся па сваіх дамах. У будынку, дзе адбываўся сход, асталося толькі восем чалавек, якім немцы загадалі падпісаць дакумент, у якім сцвярджалася, што арыштаваныя да 22 чэрвеня 1941 года былі супрацоўнікамі савецкіх сельсаветаў. Паводле маіх суразмоўцаў тыя, што падпісалі, ведалі, якія будуць паслядоўнасці складзеных імі подпісаў. У Пратасах, дзе было месца смяротнага пакарання, ужо раней былі падрыхтаваны ямы, а калі арыштаваных вывозілі з вёскі, некаторыя жанчыны спешна гаварылі „здроваські" і з перапалохам паўтаралі, што яны ўжо не вернуцца ў Рахвалаўку, хаця сем'і іх мелі надзею, што гэта нейкае недаразуменне і справа хутка высветліцца. У Пратасах былі растраляны: Паўлючук Андрэй, Абэрка Сямён, Барташэвіч Язэп, Лесюк Аляксей, Скарупскі Міхал, Снарскі Аляксандр, Петрашэвіч Дарафей, Петрашэвіч Павел.

— Але за што канкрэтна немцы расстралялі гэтых людзей, — дапытваўся я.

—Тыя, што падпісалі ўспомнены дакумент,— пачуў у адказ, — гаварылі пасля, што расстраляныя былі ў нейкай ступені вінаватымі ў ссылцы ў Сібір асаднікаў, якія пражывалі ў калоніі Зацішша, што непадалёк Рахвалаўкі. Але саветы вывозілі прынцыпова ўсіх асаднікаў, без ніякіх даносаў. На дадатак тых трох, якія ў той няшчасны дзень не з'явіліся на сходзе, спакойна перажылі нямецкую акупацыю, ніхто да іх больш не чапляўся. Калі б былі тады прысутныя, іх таксама немцы растралялі б.

Пры канцы ліпеня 1941 г. пачаў у Беластоку дзейнічаць Беларускі камітэт. Была арганізацыя, якая магла дамагацца ад немцаў больш уважлівага падыходу да спраў беларусаў. Праз пасрэдніцтва Камітэта сем'і памардаваных атрымалі ад нямецкіх улад дазвол на перапахаванне сваіх блізкіх. У жніўні 1941 г. былі яны перавезены на праваслаўны могільнік у Заблудаве і пахаваны кожны ў суседстве сваіх родзічаў.

Выглядае на тое, што былі яны выпадковымі ахвярамі змены палітычнай сітуацыі на нацыянальным памежжы, якое ніколі не бывае да канца акрэсленае. У час крызісаў ніколі невядома, якая маральнасць стане тут пераможнай. Адначасова ёсць гэта нейкі адказ на пытанне, чаму беларусы так баяцца ўсялякіх палітычных закалотаў. Кожная меншасць нечым вылучаецца і заўсёды бывае падазронай, а падчас раптоўных палітычных зменаў найчасцей бывае ў нечым абвінавачаная, хаця б за самое існаванне.

Пасля вайны ў Рахвалаўцы актыўна дзейнічала акаўскае падполле. Пры канцы саракавых гадоў была там створана партыйная арганізацыя, але — як сказалі беларускія жыхары гэтай вёскі — сярод членаў партыі былі выключна палякі.

**Яўген Мірановіч**

## Зіма з „Зоркай" у Бандарах і наваколлі

*Працяг са стар. 1*

гальнасць сведчыць хаця б пустуючы гадамі дастойны драўляны будынак школы ў Бандарах і пустэча над берагамі возера.

Магутная плаціна, характэрная для будоўляў 70-х гадоў, не ў змозе зарабіць на сябе. Усё шчасце — што гэта дзяржаўная ўласнасць і прынамсі такое становішча забяспечвае нармальны догляд усяго абсталявання. Плануецца будаваць электрастанцыю, каб выкарыстаць спадаючую ваду. Паводле старшага спецыяліста па гідратэхніцы інжынера Аляксандра Кардаша прыбытак ад гэтага будзе невялікі. „На шчасце пачалі вяртацца сюды птушкі, якія калісьці жылі ў даліне Нарвы", — суцяшае А. Кардаш.

Пустуючая ваколіца асабліва бачная зімой. Толькі на Грамніцы ў Ялоўцы ў царкве сабраўся праваслаўны народ. Свята — гэта нагода для сустрэч са знаёмымі і абмену думкамі. Напярэдадні рэферэндуму ўсе мужчыны ў іранічнай форме насмейваюцца з прайграных палітыкаў. Ніхто не ведае пра што ідзе ў гэтым рэферэндуме. Ялоўка — маляўнічае мястэчка, шмат страціла ў пасляваенны перыяд: няма яўрэяў, ніхто не адбудаваў неакласіцыстычнага касцёла св. Антонія. Бесперспектыўнасць жыцця ў пагранічнай зоне, так характэрная для ўсходняй Беласточчыны, у Ялоўцы давяла да заняпаду мястэчковае жыццё. Падумаць толькі, для гісторыі Беларусі гэта не абыякавае месца. У тутэйшым касцёле быў ахрышчаны Кастусь Каліноўскі. А з 1936 г. служыў у ім беларускі ксёндз Янка Семашкевіч, вядомы пад літаратурным псеўданімам — Янка Быліна. Пры нагодзе чытання дзіцячага часопіса „Пралескі" ўдалося мне выявіць іншы яго псеўданім Янка Ялавец (бо з Ялоўкі). Старэйшыя жыхары Ялоўкі памятаюць яго і цяпер. Адна бабуля ўспамінае, як вучыў яе рэлігіі ў школе.

Падарожжа ў Мастаўляны — месца нараджэння Кастуся Каліноўскага — гэта чарговы крок у гісторыю. Сёння мала хто ведае, што па былым двары Каліноўскіх астаўся толькі падмурак і — праўдападобна — каштаны. Добра было б назаўсёды ўвекавечыць у гэтых месцах памяць пра асобы, якія ўвайшлі ўжо ў гісторыю Беларусі.

Мы стараліся гэтыя месцы паказаць „зорчыным" карэспандэнтам, каб памяць аб іх не памерла разам з дажываючымі свой век жыхарамі вёсак. Сустрэчы „Зоркі" ў Бандарах пасведчылі, што дзеці могуць цікава працаваць і адпачываць, а таксама да слёз расчуліць мясцовых дзядоў і бабуляў, прыпамінаючы іх песні і легенды. І асноўнае — гэта новае пакаленне, якога нельга страціць, а трэба над ім працаваць і перадаваць свой вопыт, а не замыкацца ў свеце сваіх прыватных амбіцый. Здаецца, усе апекуны аддалі дзецям не толькі свае веды і вопыт, але і сэрцы. Нарадзілася таксама думка прадаўжаць такія сустрэчы на Бацькаўшчыне ў розных цікавых кантэкстах.

**Лена Глагоўская**

## Мучанік за беларускую ідэю

У гады II сусветнай вайны тысячы беларускіх патрыётаў змагаліся, не шкадуючы сваіх жыццяў, за незалежную Беларусь. Многія загінулі ў гэтай барацьбе з вераю, што іх імёны навечна застануцца ў гісторыі беларускага вызваленчага руху. Але, па розных прычынах, некаторыя героі дагэтуль не вядомыя нам і памяць іх не ўшанаваная... Адзін з іх — доктар філасофіі Мікола Чарнецкі.

* * *

Мікола Чарнецкі нарадзіўся ў 1899 годзе ў вёсцы Малыя Азяраны Гродзенскага павета, у беднай сялянскай сям'і. Пасля школы ён паступіў у Свіслацкую настаўніцкую семінарыю, якую скончыў у 1918 г., ужо ў Расеі, у бежанстве. У вайну загінула ўся яго сям'я...

Вярнуўшыся ў 1921 годзе на Бацькаўшчыну, ён доўга не мог знайсці сабе працы. М. Чарнецкі далучаецца да беларускага нацыянальнага руху, сімпатызуе эсэрам, якія на Гродзеншчыне кіравалі антыпольскім партызанскім рухам. Калі стала зразумела, што сілаў для барацьбы з польскімі акупантамі недастаткова, Чарнецкі вырашае ехаць у Чэшскую Прагу — працягваць навуку.

У 1923 г. ён паступае на Філасофскі факультэт Карлавага ўніверсітэта. Мікола Чарнецкі актыўна працуе ў беларускіх незалежніцкіх арганізацыях: Аб'яднанне беларускага прагрэсіўнага студэнцтва, Аб'яднанне беларускіх студэнцкіх арганізацый (АБСА), эсэраўская Вольная грамада. Ён уваходзіў у Замежнае бюро Беларускай партыі сацыялістаў-рэвалюцыянераў, якім кіраваў Тамаш Грыб.

Уладзімір Калеснік называў Чарнецкага „сябрам і апекуном" паэта Уладзіміра Жылкі. Калеснік адзначаў, што ён запісваў і публікаваў у газетах 20-х гадоў беларускі фальклор.

Атрымаўшы навуковую ступень доктара філасофіі, у 1929 г. Мікола Чарнецкі выязджае ў Заходнюю Беларусь. Некалькі месяцаў ён працуе ў Радашкоўскай беларускай гімназіі. Адзін з яго сяброў пісаў ужо на эміграцыі: „Пачалося цяжкое жыццё, цяжкое змаганьне. (Чарнецкі) ніколі не ўмеў крывіць душою і заўсёды гаварыў праўду ў вочы, а адзінай праўдай была ў яго праўда беларуская. Дзеля гэтага доктар жыў часта горай за звычайнага рабочага, але ня здаўся і не пайшоў на паклон да ворагаў Беларусі. І ня мог пайсьці, бо гэта быў камень, крышталь, цьвёрды і непарушны ідэаліст, гатовы на ўсё, толькі не на здраду ці толькі падхалімства..."

М. Чарнецкі застаецца верны эсэраўскай ідэалогіі. Ён быў адным з выдаўцоў эсэраўскага часопіса „Золак", які выходзіў у 30-я гады ў Вільні. Чарнецкі працуе сярод беларускага студэнцтва ў Вільні. Напрыклад, 2 лютага 1933 г. ён выступіў на сходзе сяброў Беларускага студэнцкага саюза з рэфератам „Асновы сучаснага беларускага руху".

Прыйшоўшы ў 1939 годзе бальшавікі арыштавалі Міколу Чарнецкага і толькі пачатак нямецка-савецкай вайны ўратаваў яму жыццё. Ён працуе ў Беларускім нацыянальным камітэце ў Беластоку, з'яўляецца сябрам Беларускага нацыянальнага супраціўлення

Адзін з працаўнікоў БНК успамінаў: „Нянавісьць ягоная да нацыстаў была надзвычайная. Ісці зь ім па вуліцы было небясьпечна, бо як толькі пабачыў ён немца ў чорным ці жоўтым аднастроі, дык ня мог устрымацца ад вострых заўвагаў". Ён прыводзіць і словы Чарнецкага, якімі доктар тлумачыў свае паводзіны: „...не магу ўстрымацца, гэта-ж зьвяры, калі іх пабачу, дык мне дрэнна робіцца".

У маёнтку Відзікі, каля Юхнаўца, жыла дваюрадная сястра Чарнецкага з вядомага роду Шараметаў. Мікола Чарнецкі часта яе наведваў і там сустракаўся з мясцовымі палякамі, з якімі ў яго ўзніклі спрэчкі па палітычных і нацыянальных пытаннях. Як адукаваны чалавек, ён абгрунтоўваў правы беларусаў на сваю незалежную дзяржаўнасць ды выкрываў польскую антыбеларускую палітыку. Сярод яго апанентаў знайшліся і ўдзельнікі акаўскага падполля, якія вырашылі ліквідаваць „беларускага шавініста".

Увосень 1943 г. узброеная група акаўцаў абрабавала маёнтак Відзікі і забрала з сабою М. Чарнецкага, які якраз гасцяваў у сястры... Намаганні беларускай паліцыі знайсці бандытаў былі безвыніковымі. Немцы ж нічым ёй не дапамаглі. І нават калі гестапа арыштавала некалькі асоб, у якіх знайшлі партфель з дакументамі Чарнецкага, ніякага дазнання не вялося і іх, неўзабаве, адпусцілі пад залог. Усё гэта прывяло беларусаў да думкі, што і немцы прыклалі сваю руку да знішчэння беларускага патрыёта, які не хаваў сваіх антынямецкіх поглядаў.

Толькі вясною 1944 года, калі сышоў снег, вясковыя пастушкі натрапілі ў лесе на копчык, з якога выглядала рука чалавека. Прыбеглі сяляне і праўда адкрылася. У яме ляжаў, парубаны на кавалкі, доктар Мікола Чарнецкі...

Сотні людзей прыйшлі на беластоцкія могілкі, на пахаванне вялікага беларускага патрыёта, мучаніка за нацыянальную ідэю...

**Сяргей Ёрш,**
Слонім

## Дай Божа

Дай Божа, каб наш
Народ апамятаўся!
Не апаганьваў свайго,
Сваіх суродзічаў шанаваў,
Не смяяўся з роднай мовы,
Не пакідаў царквы ў патрэбе,
Чужога вельмі не хваліў.
Каб быў смелы,
Умеў культуру продкаў шанаваць
і сваім дзецям
усё роднае пераказаць.
Дай сілы нам,
Божа Усемагутны,
век астацца беларусамі.

**Аўрора**

# СХОД ПРАГРАМНАЙ РАДЫ „НІВЫ”

## Агляд старшыні

29 студзеня 1996 г. адбыўся сход Праграмнай рады „Нівы”. Сход трываў больш за тры гадзіны. У гэтай занатоўцы паспрабую перадаць чытачам яго асноўны змест. Апошняя частка, прысвечаная справе ЗБМ — гэта мая прыватная, суб'ектыўная ацэнка.

На сходзе прысутнічалі прадстаўнікі ўсіх беларускіх арганізацый, якія складаюць Раду. У тым ліку быў і сп. Янка Сычэўскі, старшыня БГКТ. Паколькі БГКТ раней не ўдзельнічала ў працы Рады, гэты факт адзначаю са шчырым задавальненнем.

Сход пачаўся дыскусіяй аб „Ніве” ў 1995 годзе.

**Галоўны рэдактар:** Фінансавае становішча нашай газеты надалей цяжкае. Аднак, дзякуючы ашчаднай гаспадарцы, „Ніве” ўдалося сплаціць у мінулым годзе ўсе даўгі. Сітуацыя стабілізавалася. Гэта датычыць не толькі фінансаў. Стабільным застаецца састаў рэдакцыі і тыраж газеты (2300 экз.).

**Ян Чыквін:** Непакоіць на старонках „Нівы” колькасць тэкстаў на мяжы графаманства. Замест такіх тэкстаў трэба рабіць перадрукі з беларускай прэсы. Можна там знайсці цяпер многа сенсацыйнага матэрыялу аб невядомых старонках нашай гісторыі і культуры.

**Сакрат Яновіч:** Вялікае значэнне для „Нівы” мае рэпартаж. Добра напісаны рэпартаж, асабліва на скандальную тэму, можа прыцягнуць многа чытачоў. Таму журналісты „Нівы” павінны больш цікавіцца рэпартажам. Самыя лепшыя рэпартажы ў „Ніве” піша Ганна Кандрацюк. Але гэтага ўсё мала. Магчыма трэба, каб „Ніва” заказвала больш матэрыялаў з-па-за рэдакцыі.

**Марко Заброцкі**, журналіст Радыё Беласток: Рэпартажы ў „Ніве” спазняюцца ў адносінах да апісваных падзей на тры тыдні, або і болей. Зусім непатрэбныя фельетоны на агульнапалітычныя тэмы, якія можна знайсці і ў іншых газетах.

**Алег Латышонак**, журналіст: Рэдакцыя павінна мець свой уласны голас ва ўсім, у тым ліку і ў „вялікай палітыцы”.

**Ганна Кандрацюк**, журналістка: „Ніва” ёсць наогул адзінай беластоцкай газетай, якая пастаянна друкуе рэпартажы з „тэрэну”.

**Янка Максімюк**, былы журналіст „Нівы”: Беларускі тыднёвік знаходзіцца цяпер на раздарожжы — на вачах гіне традыцыйны вясковы чытач, а новага пакуль няма. Новага чытача „Ніва” павінна сабе выхаваць, звяртаючыся да маладога пакалення ў гарадах.

**Галоўны рэдактар:** Больш за 70% тыражу разыходзіцца ў Беластоку, Бельску і Гайнаўцы. Вядома, шмат чытачоў „Нівы” — гэта вучні Бельскага і Гайнаўскага беларускіх ліцэяў.

**Сакрат Яновіч:** Тыя вучні, аднак, такія ж нацыянальныя дэгенераты, як і ўсе.

**Юрка Каліна**, журналіст „Часопіса”: Ліцэі, гэта апошні шанц беларускага друку.

**Ада Чачуга**, журналістка „Нівы”: Калісь рэдактар Валкавыцкі шмат увагі прысвячаў ліцэям.

**Багдан Сіманенка**, старшыня ЗБМ: Сучасная беларуская моладзь не давярае „Ніве”, бо „Ніва” хлусіць і не хоча слухаць голасу моладзі.

Другая частка сходу была прысвечана абгрунтаванню праекта стварэння, у рамках Рады, дапаможна-кансультацыйнай групы. Яе заданнем было б рэгулярнае супрацоўніцтва з рэдакцыяй. У склад групы ўваходзілі б прафесіянальныя аўтарытэты. Галоўная мэта — дапамагчы рэдакцыі павысіць мерытарычны ўзровень газеты. Заданне стварэння такой групы было даручана галоўнаму рэдактару і старшыні Рады.

Наканец Рада прыступіла да дыскусіі над канфліктам, які ў апошніх месяцах мінулага года разгарэўся паміж „Нівай” і Звязам беларускай моладзі. Непасрэдная прычынай канфлікту было абразлівае для Звязу апісанне падзей на канцэрце „Бардаўская восень”. Пакрыўджаны ЗБМ дамагаўся, у вострай форме, перапросін з боку галоўнага рэдактара. Аднак чарговыя публікацыі на гэтую тэму не толькі не палагодзілі канфлікт, але наадварот, абвострылі яго.

На сход Рады прыйшло некалькі сяброў ЗБМ на чале са старшынёй Багданам Сіманенкам. Разгарэлася вострая дыскусія, якой цэлага зместу перакавазаць немагчыма. На маю думку, галоўным яе акцэнтам было заяўленне Юркі Асенніка з ЗБМ аб тым, што канфлікт не заключаецца ў артыкулах. **Гэта канфлікт пакаленняў. З аднаго боку „Ніва”, гэта пакаленне студэнцкага руху васьмідзесятых гадоў. З другога боку, ЗБМ гэта рух школьнай моладзі дзевяностых гадоў.** Вядома, што ў канфліктах такога тыпу кожны бок мае сваю рацыю. Хлопцы з ЗБМ адчуваюць, што „Ніва” іх пакрыўдзіла і не хоча прызнацца ў сваёй віне. Журналісты „Нівы” даказваюць, што ўся справа — гэта рэзультат авантурызму кіраўніцтва ЗБМу, якое не мае пачуцця гумару, дыстанцыі да самога сябе і наогул дрэнна разумее тое, што піша „Ніва”.

На маю думку, сябры рэдакцыі не павінны эмацыянальна падыходзіць да канфлікту. Будучы адзінай беларускай газетай, „Ніва” не можа быць стымулам канфліктаў у нашым асяроддзі.

**Старшыня Праграмнай рады**
**Валянцін Сельвясюк**
**Фота Ады Чачугі**



*Моладзь... і Сакрат Яновіч.*



*Старыя.*

# З дзённікаў С. Яновіча

**1994 - 05 -15.**

— Уночы з юбілею слаўнага хору ў Гарадку (40-годдзе). Усё было вельмі сімпатычна, і нават надзвычайна (...). Ды бяда з маім арганізмам: не вытрымаў паслейшага балю (...).

Не без прычыны тут і псіхічны настрой: угледзеў сярод юбілейнай аўдыторыі мноства твараў, ад якіх павеяла ў мой бок благімі ўспамінамі, мінулымі, як і прыкрымі часамі. А яшчэ — дзеці і моладзь: цудоўна беларускія на сцэне і зусім польскія прыватна. (...)

**1994 - 06 - 22.**

Споўнілася мара жыць у Крынках, у цішы і зелені. Пераезд з Беластока сюды 17-га. Дапамагалі швагры Барода і Баргановіч, а наймацней Лёнік з *Томсанам* (мэбля!). (...)

Выматаў мяне папярэдні выезд у Менск (12-15.VI). Адразу на дзве канферэнцыі, адна за адной: першая, прысвечаная культуры беларускага замежжа, другая — культурныя сувязі Беларусі з Паўночнай Амерыкай. Меў выступленні (...). Дзіўна добра я перанёс тыя тры дні хаосу, процьмы дакладаў (у большасці аматарскіх), гвалту гутарак у перапынкі. (...)

Трохі гутаркі з Брылём (звярнуў мне ўвагу на тое, што лішне карыстаюся формай *ёсць*). Эпізадычна — з Мальдзісам (паказаў свой Цэнтр), Коласам, Трусавым, Кіпелем, Запруднікам, Жучкам, Сурмач... (...) Прычапіўся той Яўген Скварчэўскі (хоча ўцячы ў Польшчу і на Захад).

**1994 - 07 - 10.**

(...) Пры канцы чэрвеня — на Сярэдненеўрапейскім Форуме Культуры на Віграх (фонд *Памежжа*). Уданы ўдзел. І шмат выдатных знаёмстваў, дзеячоўскіх, палітычных (Энгельмаер, мадзьярскі амбасадар на Польшчу і Беларусь, Часлаў Мілаш: аказваецца, чытач маіх польскіх кніжак). Гутаркі са славенцамі, баснійцамі, украінцамі, літоўцамі, славакамі, etc. Бабкова з *Нашай Нівы* пазнаёміў са Струмілам. (...)

**1994 - 07 - 25.**

Кантынентальнае лета. Выратавальнае паліванне агарода. Трохі, непатрэбнай мне, сумятні. Семнаццатага — з Таняй на вяселлі Эвы, дачкі швагеркі Зіны Багдановіч (беластоцкі рэстаран *Асторыя*). Замуж — у Нідэрланды, за Тона Янсэна (— Эйндхавен). Цікава было, сутыкненне двух светаў. Адтуль прыехалі сваім аўтобусам, за паўсотні новасваякоў з-над Ла-Манша. Шлюб у Свята-Духавым саборы, але гулянка фландрыйская. Бар'ер мовы; спробы сваяцца, бы на фільме мімаў. Поўная ізаляцыя, якую лагодзілі танцы. (...)

**1994 - 08 - 13.**

(...) Нечаканая, зусім бяссэнсавая смерць: памёр Уладзіслаў Рубанаў! Сэрца? Успомніўся той навагодні вечар у *Іслачы*... Уразіла мяне панурасць у ягоным сямейным жыцці, п'яная жонка. (...)

**1994 - 09 - 11.**

Тыдзень назад вярнуўся са Свята Беларускай Пісьмовасці, у Менску і ў Полацку. Дабівае іншы рытм часу, савецкі балаган, марная ежа. Ездзіў з Чыквіным, Генікам М., Валодзем Пацам.

Даўно хацелася пабачыць Полацак. Пашанцавала на добрага праваднік, гісторыка Сяргея Тарасава (сын памятнага Васіля, які выкладаў некалі ў Беластоку). Сафійскі сабор. Спаса-Еўфрасіннеўскі манастыр. Замчышча. Музей Кнігадрукавання. Начавалі ў неправдападобна занядбаным гатэлі *Дзвіна*. Бруд, тараканы, разбітая мэбля, дзваставаная водаправодная сетка, усё цячэ! Шэры горад, але моладзь нябрыдка апранутая; усё ж ідзе новы час. Па-беларуску нагаварыліся, непрымушона, натуральна, толькі з Сяргеем.

На акадэміі ў Купалаўскім тэатры выступіў — упершыню! — *на мове* экзарх Філарэт, маскаль. Моцнае выступленне Гілевіча (— барацьба за недапушчэнне расейшчыны ў афіцыйны ўжытак, што адразу перакрэсліла б рэанімацыю нацыі).

Прыняў нас, чатырох, міністр Сянько (схуднеў, змізарнеў). Нічога новага, паўторы. Пасядзелі больш паўгадзіны. — Запрасіў нас цераз Паца.

Яшчэ ў пятніцу — супольныя аўтарскія сустрэчы — Чыквіна і мае — у Педагагічным універсітэце і ва Універсітэце культуры. Там і там пра *Белавежу* не чулі. Інтэлектуальная кандыцыя студэнтаў слабейшая, чым польскіх. Слухалі надта сканцэнтравана. Былі пытанні. Прафесура абыякавая да нас, чамусь не цямячы, адкуль мы ўзяліся беларусамі ў Польшчы (...).

*Беластоцкія беларусы пакуль яшчэ трымаюцца беларусамі...* — інтэрв'ю Геніка ў *Звяздзе* ад 30 жніўня. Патрэбнае, без крукельства.

У вяртанне — на беларускай мяжы, як заўсёды, шматгадзінная марудa з пераездам рэйсавага аўтобуса. Паскандаліў я з бел. капітанам (узарвала мяне, што і не думае ён гаварыць на роднай м.; адпомсціў ён драбязнай мытнай рэвізіяй усіх пасажыраў).

**1994 - 09 - 12.**

(...) *Czasopis* апублікаваў вынікі анкеты Чыквіна, якая паказала, што ў *беларускіх ліцэях* на кожных чатырох вучняў усяго адзін адчувае сябе беларусам, рэшта палякамі; і пазіцыя кіраўніцтва *Нівы*, найперш Геніка, што: даўгавечча тыднёвіка абумоўлена аналагічнай палітыкай Варшавы да іншых большых мяншыняў, нацыянальныя арганізацыі тут ні пры чым (так ці сяк, *Ніва* ўсё роўна безабаронная). Блізкі той час, калі наша мяншыня скурчыцца да плюс-мінус 20 прац. цяперашняга этнічнага патэнцыялу.

У гэтым кантэксце Абух — не Вапа, аднак, ён, а хутчэй за ўсё Макс! — пачынае мець гратэскную рацыю. Горка робіцца, успомніўшы сваё мінулае жыццё! Адхочваецца прымаць удзел у далейшай нацыянальнай дзейнасці. — Генік дае дэфініцыю: беларусы, пераважна, не любяць сваіх арганізацыяў за тое, што перашкаджаюць яны ім стацца... палякамі!

*(працяг будзе)*

*Тлумачэнні:*

— „Ніва” ўсё роўна безабаронная — у духу прымаўкі: хто плаціць, таму і музыка іграе; лёс „Нівы” залежыць ад дзяржаўных датацыяў, без якіх не выйшаў бы нават адзін яе нумар: яе Праграмная рада існуе толькі дэ-юрэ, а дэ-факта яна лішняя.

Зорка
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

# Там часта гучаць родныя песні



*Лена Добаш і яе навучэнцы: Міхась Бачко, Лукаш Мінеўскі, Міхась Максімюк, Юстына Засім, Уля Бандарук, Магдалена Лаўрэшук, Кацярына Герасімчук, Кацярына Свентахоўская, Якуб Кялчэўскі, Мацей Выркоўскі.*

У Пачатковай школе н-р 5 у Беластоку сустрэла я вельмі цікавых дзяцей. Настаўніца рэлігіі Лена Добаш і яе навучэнцы наладзілі з „Зоркай" незабыўную сустрэчу. Якраз быў час карнавалу, таму мае сябры жыва ўспаміналі школьную ёлку. Дзеці падрыхтавалі многа вершаў, якраз на беларускай мове.

— „Ніву" чытае мая мама, — радасна аб'явіў сваім сябрам Міхась Бачко.

Іншыя дзеці таксама паабяцалі стаць нашымі чытачамі. Усе расказвалі пра свае зацікаўленні, планы на будучыню, з захапленнем слухалі пра аднагодкаў, якія ўжо друкуюцца ў „Зорцы".

Кася Свентахоўская першай расказала пра дзеда Міколу і бабку Юлію, што жывуць у вёсцы Макаўка. Дзяўчынка адзінай ў класе ведала беларускую мову.

— Я вельмі люблю, калі на такой мове гавораць да мяне людзі, — прызналася Кася.

З ліку школьных заняткаў найбольш любіць урокі рэлігіі і настаўніцу Лену Добаш.

У сябра Касі — Міхася Бачко — дзед і баба таксама беларусы. Бабка Галіна і дзед Міхал жывуць у Гарадку. Хлопец любіць геаграфію і гісторыю. А Лукаш Мінеўскі ўсіх ашарашыў сваімі планамі на будучыню.

— Калі стану археолагам, раскапаю Сураж, старажытны горад.

Лукаш любіць ездзіць да сваёй бабулі ў вёску Дарожкі. Разам з дзедам Федзем і бабкай Антанінай наведваюць вясковую царкаўку ў Кажанах.

Не менш амбітныя планы ў Міхася Максімюка. Хлопец хоча быць архітэктарам і будаваць казачныя гарады. Вельмі падабаецца хлопчыку архітэктура вёскі Трасцянкі, дзе жывуць яго дзед і баба.

— А я, — сказала Уля Бандарук, — буду спявачкай. Уля ўжо спявала ў дзіцячым хоры Алы Дубэц. Таксама як усе класныя сябры мае радню ў беларускіх вёсках. Уля сваіх бабуль наведвае ў Бабро́ўніках і Зубках.

— Ужо чатыры гады будзе, як рыхтуем ёлачны рэпертуар і па-беларуску, — адзначыла настаўніца рэлігіі. — Калісь я была на вечарыне ў свайго сына. Якраз перад Святам маці. Тады я зразумела, што на такіх сустрэчах павінны быць беларускія песні, бо тады як паветра не хапала песні „О, матуля мая", — прызналася катэхетка.

Яшчэ раней спадарыня Добаш навучала беларускай мове ў Залуках. Сама яна беларусістка.

— Зараз праца намнога цяжэйшая. З дзецьмі трэба многа працаваць, каб не лічылі сябе горшымі сярод лепшых. У школе н-р 5 толькі 90 дзяцей праваслаўных. Пераможная большасць, бо амаль паўтары тысячы, ходзяць на іншыя заняткі рэлігіі. Дзеці Лены Добаш ганарацца сваёй адметнасцю. Зала, дзе праводзяцца заняткі рэлігіі, упрыгожана беларускімі ўзорамі. Там часта чуваць таксама беларускія песні.

**Ганна Кандрацюк,**
**Фота аўтара**

# Сакаўскія акцёры

— Калі я запрапанавала сваім вучням прыгатаваць на школьную ёлку беларускую п'есу, яны адказалі мне са здзіўленнем: „Па-беларуску?", — успамінае Аліцыя Барона, настаўніца Пачатковай школы ў Саках. — А чаму ж бы не? Вы ж усе вывучаеце беларускую мову!

Настаўніца прачытала вучням п'есу Міхася Чарота „Мікітаў лапаць" і ўсім яна вельмі спадабалася. Вучні пачалі раздзяляць паміж сабой ролі. Цікава, што Саўкам захацеў стаць хлопец, які не вывучаў беларускую мову. Але ў час спектакля ён гаварыў быццам сапраўдны беларус. Вучні самі зрабілі дэкарацыі. Абклееная шпалерамі ў цаглiны і дрэвы шырма змянілася ў дзве хаты. Усе доўга рыхтаваліся да спектакля для бацькоў, настаўнікаў і сяброў. А работы было шмат. Усім акцёрам хацелася гаварыць, спяваць і танцаваць, ды сапраўды адчуць сябе героямі п'есы. Здаецца, гэта ім удалося! Публіка пачынала ўжо смяяцца, калі на сцэну выглянуў Адам, які граў Мікіту — вясковага прасцяка. Ён не мусіў нічога гаварыць, яго міны і жэсты падабаліся ўсім. Шчыры смех паслабіў хваляванне маладых акцёраў, якім публіка не шкадавала апладысментаў.



Ёлка адбывалася 2 лютага, а цяпер вучні і іх класная выхавацелька чакаюць конкурсу сцэнічных форм на беларускай мове для вучняў пачатковых школ. Раённы агляд адбудзецца 10 сакавіка ў Гайнаўцы. Усе жыхары вёскі, бацькі і сябры жадаюць маладым акцёрам поспехаў у конкурсе. На канец трэба прыгадаць, што спадарыня Аліцыя выкладае ў Саках матэматыку, фізіку і хімію, але закончыла яна Бельскі беларускі ліцэй.

**(амб)**

# Беларускія татары

Татары з'явіліся на Беларусі пры канцы XIV стагоддзя. У татарскай краіне — Залатой Ардзе, якой палітычны цэнтр знаходзіўся ў нізоўях Волгі, трывала тады феадальная вайна. Пабітыя прыхільнікі хана Тахтамыша ўцяклі на тэрыторыю Вялікага княства Літоўскага, дзе ветліва былі прыняты князем Вітаўтам і абдараваны землямі на Віленшчыне і Міншчыне. Узамен татары абавязаны былі да вайсковай службы, што, дарэчы, успрымалі як вялікі гонар. Татары хутка пабудавалі свае вёскі і мячэці. Сярод традыцыйна талерантных беларусаў адчувалі яны сябе лепш, чым у сваёй айчыне, дзе надалей трывалі войны паміж паасобнымі ханамі. У 1410 годзе адзначыліся яны ў бітве пад Грунвальдам, дзе сапраўдным пераможцам стала ваенная татарская тактыка, якою карыстаўся кароль Ягайла. Крыжакі змагаліся пад Грунвальдам паводле традыцыйных еўрапейскіх правілаў і прайгралі.

У XV і XVI стагоддзях колькасць татараў у Беларусі хутка пабольшвалася. Цэлыя кланы эмігравалі сюды з Крыма і Паволжа. Шмат татараў, трапіўшы ў палон падчас татарска-беларускіх канфліктаў, нават атрымаўшы свабоду, рашалася астацца ў Беларусі. Тут быў спакой і дабрабыт.

Татары ў XV стагоддзі пачалі таксама пасяляцца ў гарадах Беларусі, займаючыся найчасцей усялякімі рамёствамі — гарбарствам, рымарствам, кушнерствам.

На пачатку XVI стагоддзя большасць беларускіх татараў гаварыла выключна на беларускай мове, толькі малітвы чыталіся на арабскай і цюркскай. Рукапісныя старыя кнігі *Аль-Кітабы* пісаліся арабскім алфавітам, але на беларускай мове. Між іншым дзякуючы *Аль-Кітабам* ведаем сёння дакладна як гучала старабеларуская мова.




**Дарагая „Зорка"!**

Я — вучаніца шостага класа Пачатковай школы ў Новым Корніне. Ад трынаццатага студзеня я спяваю ў праваслаўным хоры. Мой хор налічвае трыццаць адну асобу. Падзелены ён на альты і сапраны. Я спяваю альтам. Групу сапранаў складаюць дваццаць адна асоба, а групу альтаў — дзесяць асоб. Да хору ходзяць старэйшыя і малодшыя вучні. У хоры больш дзяўчат чым хлопцаў. Мне вельмі падабаецца спяваць у хоры.

**Аня Тэслюк**

# Хлопчык-сірата

*(казка)*

Жыў на свеце хлопчык-сірата. Нікога ў яго не было. Юрка хадзіў ад сяла да сяла. Прасіў добрых людзей, каб далі яму паесці і пераначаваць. За тое Юрка пас ім гусей і авечак. Хадзіўшы так, дайшоў ён да берага мора. Быў вельмі змучаны. Лёг у халадку і заснуў. Праходзілі тудою бабуля з унучкай. Убачыўшы хлопчыка, падышлі да яго і абудзілі. Бабуля запытала ў Юркі:

— Як цябе завуць, хлопчык?

Сіротка расказаў пра сябе. Бабуля папрасіла, каб астаўся з імі. Хлопчык аж заплакаў ад радасці.

Дзеці пасябравалі. Даша навучыла Юрку плаваць у моры. Юрка прысягнуў сабе, што, калі вырасце, стане рыбаком. Юрка пакахаў Дашу.

Калі выраслі, пажаніліся. Дачакаліся сваіх дзяцей. Юрка быў добрым бацькам і выдатным рыбаком.

**Марта Саевіч,**
**вучаніца III класа**
**ПШ у Дубічах-Царкоўных**

**Ад рэдакцыі:** Марта! Твая казка, думаю, захопіць не толькі тваіх аднагодкаў, але і старэйшых сяброў. Брава! Пішы ў „Зорку", не забывай!

**„Зорка"**



Талон "Зоркі" н-р 10
10.03.1996

III Сустрэчы „Зоркі”

# Паэзія — каханне жыцця

„Чалавек і прырода — адвечныя сябры”. Так думае Уладзімір Гайдук, беларускі паэт з Тарнопаля. Наведалі мы яго ў халодны лютаўскі дзень. Сядзіба паэта знаходзіцца ў лясным урочышчы Полымя. Не дзіва, што ў такім месцы нараджаюцца паэты! Зачаравала нас прыгажосць краявіду, стройныя елкі і буслінае гняздо на хаце. Уладзімір Гайдук, як і ўсе жыхары Тарнопаля — земляроб. Свой першы верш напісаў у дзевяць гадоў. Крыніцай натхнення сталі здарэнні, якія моцна кранулі ўражлівую душу дзіцяці. Літаратурны дэбют прыйшоў намнога пазней. Верш „Пазнаёмімся” паказаўся ў „Ніве”, калі паэту было 15 гадоў.

— Каб пісаць добрыя вершы, трэба пазнаёміцца з літаратурай, — сказаў нам Уладзімір Гайдук.

Сам, будучы маладым чалавекам, прачытаў многа класічных твораў. Яго літаратурнымі аўтарытэтамі да сёння асталіся Аляксандр Пушкін, Якуб Колас, Янка Купала. У вершы паэт найбольш цэніць лёгкі сюжэт і глыбокі сэнс. — Не штука пісаць многа, — адзначыў літаратар, — штука пісаць добра. Паэт можа ўвайсці ў літаратуру нават з чатырма добрымі творамі.

Уладзімір Гайдук выдаў два лірычныя зборнікі — „Ракіта” і „Блакітны вырай”. Сам ён — член Беларускага літаратурнага аб'яднання „Белавежа”.

Сустрэча з паэтам выклікала ў нас вялікія ўражанні. Спадабаўся нам гэты ўражлівы, адкрыты чалавек. З хваляваннем выслухалі мы ягоных крытычных уваг на тэму нашай творчасці. Паэт не належыць да тых, што беспадстаўна хваляць пачаткоўцаў. Заахвоціў нас пісаць, хаця не скрываў перад намі, што лёс беларускага паэта — нялёгкі. Пачуўшы аповед пра самотнае жыццё ў болі паэта-земляроба, мы задумаліся. Паэт захапіў нас не толькі сваёй шчырасцю, але і паказаў нам дарагія свайму сэрцу месцы — стройныя елкі, вавёрчына дупло, месца, дзе збіраюцца зубры. Дзякуючы паэту мы навучыліся звяртаць увагу на кожную дэталь акружаючай прыроды.

„Калі чалавек забываецца пра прыроду — дзічэе”, — прыгадвалі мы словы У. Гайдука, ідучы дамоў засыпанай снегам лясной дарогай. І калі мы пісалі пасля пра нашу сустрэчу ў Полымі, ведалі, што натхненне падарыў нам паэт Уладзімір Гайдук.

**Аня Садоўская, Жанэта Роля, Міхась Дзмітрук і Ганна Кандрацюк**



*Жанэта Роля, Аня Садоўская і Міхась Дзмітрук наведалі Уладзіміра Гайдука, паэта з урочышча Полымя.*

# Дзённік Ірэны

*(частка II)*

**13.02.1996 г.**

А сёмай гадзіне раніцы я ўстала з ложка і хацела, каб як найхутчэй пачаліся спатканні ў групах. Пасля снедання мы пайшлі да апекуноў, якія раздалі ролі для ўсіх малодых акцёраў. У сцэнцы я буду вожыкам. Настаўніца Ніна Ціванюк прыйшла да нас расказаць пра тое, як нарадзіліся назвы вёсак у наваколлі. Мяне гэта вельмі зацікавіла, і я пачала задумоўвацца, ад чаго паходзіць назва Тафілаўцы. З сяброўкай Ясяй, а таксама з публіцыстычнай групай хадзілі мы ў вёску Бандары правесці інтэрв'ю са старэнькім дзедам Пятром Салаўём, які гаварыў пра ворагаў „каб іх ваўкі з'елі”. Мне вельмі спадабаліся апекуны групы — Лена Глагоўская і Алег Латышонак. Тады я таксама рашыла, што буду займацца ў іхняй групе. Успаміны Пятра Салаўя былі страшныя, і я ўспомніла, як мая памерлая ужо бабуля расказвала мне пра сваё жыццё.

Пасля таго ў нас адбылася вечарына, на якую запрасілі паэта з Рыбакоў Фёдара Хлябіча. Прачытаў ён многа сваіх вершаў, а таксама дазволіў мне адзін з іх перапісаць. Я вельмі цешылася з таго і дзякавала паэту. У той жа вечар мы пазнаёміліся з дзяўчынкамі з гурту „Журавінка” з Бельска-Падляшскага. Сённяшні дзень быў вельмі цікавы, і я спадзяюся, што іншыя таксама будуць такія. Мы леглі спаць вельмі позна і думалі аб тым, як будзе ў новай групе.

**14.02.1996 г.**

Сёння ўстала я ў восем гадзін і думала, што спазнюся на снеданне. Цікавіла мяне вельмі, куды пойдзем на экскурсію. Аказалася, што ў Рыбакі на плаціну. Калі мы туды ішлі, мне было вельмі холадна і непрыемна. Інжынер Аляксандр Кардаш, старшы спецыяліст па гідратэхніцы расказаў нам пра возера. Гісторыя вадасховішча вельмі цікавая. Асаблівае ўражанне рабіў мёрзлы лёд, якога было вельмі многа. Дзесяць метраў пад узроўнем вады знаходзіцца многа пакояў, а ў адным з іх — кантора. Ніколі я не бачыла такіх дзівосаў пад плацінаю. Пасля таго мы падаліся ў Рыбакі, дзе наведалі настаўнікаў Тамару і Янку Ціванюкоў, якія вучылі роднай мове ў Луцэ, вечарамі арганізавалі спатканні для дарослых. Я вельмі б хацела паглядзець, як выглядае такая сустрэча.

Пасля абеду завітаў да нас радыёжурналіст з Беластока — Юрка Ляшчынскі. Расказаў ён пра сваю працу. У той момант мне найбольш хацелася стаць журналісткай. Пасля Ю. Ляшчынскі зрабіў з намі інтэрв'ю. Вельмі мне гэта спадабалася.

Сёння „дзень закаханых”. Я позна легла спаць, бо доўга сядзела. Сённяшні дзень быў вельмі цікавы і думаю, што заўтра таксама будзе прыгожа.

*(працяг будзе)*

**Ірэна Кулік**

# Вучнёўская творчасць

***

Жыццё здаецца нецікавым,
Калі дзіцячы розум маем.
Калі ў гадах мы даспяваем,
Веду і вопыт набываем.
І кожны з нас жыве для іншых.
Калі мы гэтага не знаем,
Ва ўсім віноўнікаў шукаем
За нашы беды, злосць і ўпадкі.
Вярнуцца трэба нам да хаткі,
Дзе мы радзіліся, жылі,
Хвіліны горкія былі
І добрыя з матуляй, з таткам.
Тады аднойчы цёмнай ноччу
На праўду адкрываем вочы.
І зразумеем, што запозна,
Але вярнуцца ўжо не можна.

**Міхась Дзмітрук**

## Дом паэта

Я ішла і бачыла,
Слухала і чула
Дом славутага паэта:
Дом народзін,
Дом дзяцінства,
Дом сталасці.
Кожны думае,
Кожны ведае,
Дзе нарадзіўся і ўзрастаў
Паэт.
Вобразы роднага месца
Пакінуў у памяці вечнай.

**Аня Садоўская**

*(верш паўстаў пасля наведання месца нараджэння Алеся Барскага ў Бандарах)*

## Месца чалавека

Кожны чалавек на зямлі
сваё месца мае,
якое шануе, цэніць і кахае.
З бацькамі ён дарастае,
вучыцца крокаў, гукаў мовы
на зямлі сваіх продкаў,
дзе дарогі, рэкі, лясы і ўзгоркі,
песні і казкі роднай старонкі.
А калі лёс кіне ў далёкія краі,
сум па дзяцінстве душу закранае,
мроцца ночу, сэрца сціскаюць
блізкія вобразы роднага краю.

**Жанэта Роля**

## Польска-беларуская крыжаванка н-р 10

RADA, ZAKĄTEK, ŁAWA, SOWA, MAK, HIR, ŁADA, MARZEC, DATA, GRA NA FUJARCE

Запоўніце клеткі беларускімі словамі паводле значэнняў што на польскай мове. Адказы (з наклееным кантрольным талонам) дашліце ў „Зорку” на працягу трох тыдняў. Сярод аўтараў правільных адказаў разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку н-р 5:**

паравоз, пузыр, лык, пасынак, кот, дуга, ар, пуп, рыс, шарык, ноч. волат, язык, яр.

Узнагароды — альбомы для фотаздымкаў — выйгралі:

1. **Аня Тэслюк** з Новага Корніна,
2. **Багуся Паскробка** з Ласінкі,
3. **Анэтка Трафімюк** са Старога Беразова,
4. **Аня Сялеванюк** з Чыжоў,
5. **Эмілька Місяйчук** з Чыжык,
6. **Кася Леанюк** з Гайнаўкі,
7. **Дануся Місяюк** з Чыжоў,
8. **Аня Раманюк** з Новага Корніна.

Віншуем!

## Кракадзіл

Я зляпіла кракадзіла,
Падарыць хацела Дзіне.
Дзіна адмаўляецца:
— Кракадзіл кусаецца!

— Смешная ты, Дзіна,
Ён жа з пластыліну!

## Я малюю

— Намалюю я клубочак:
Вось які ў мяне каточак.
Падзівіўся Косцік:
— А дзе яго хвосцік?

**Нэлі Тулупава**




"*Школа*". Мал. Петруся Дэмянюка

# Зімою ў Міхалове

Старэйшага міхалоўскага чалавека, які перабраўся жыць у Беласток, адразу пазнаеш па свойскай гаворцы. Часамі сустрэнеш такога, а спрабуй ты яму сказаць, што ён беларус! „Мы — паляцы!" — адкажа ён табе і шматзначна ўзніме вочы на каталіцкі крыж, павешаны на сцяне ў яго хаце.

Ад часу, калі ў Міхалове ліквідавалі беларускі ліцэй, беларускасць пачала тут занікаць у хуткім тэмпе. Ніхто не змог мне акрэсліць, калі гэта сталася, і толькі адна асоба — Рышард Варабей, інструктар Міхалоўскага цэнтра культуры па праграмна-артыстычных справах, — аўтарытэтна сцвердзіў, што беларуская мова існавала ў тутэйшым ліцэі да 1972 года.

Беларусы — і тыя што ходзяць у касцёл, і праваслаўныя людзі — неяк тут сваёй беларускасцю не хваляцца. Дзякуй Богу, што ў апошні час Беларускаму таварыству ўдалося развар ушыць гэтых людзей і арганізаваць тры беларускія фэстыны — у 1991, 1994 і 1995 гадах. Раней гэта было зусім немагчыма, бо не было ніякага зацікаўлення, сказаў мне ў Таварыстве Ян Сычэўскі. Не было і асаблівай дапамогі ад гмінных улад. У мінулым годзе нават войт не паказаўся на фэстыне. Быў толькі намеснік дырэктара ГОКу і старшыня Гміннай рады.

Рышард Варабей успамінае лепшыя часы для беларускай культуры, менавіта сямідзесятыя гады, калі ставіліся тут беларускія п'есы, а яны разам з Валянцінай Казімерчык, якая працавала тады інструктарам у Міхалоўскім доме культуры (Рышард Варабей быў тады дырэктарам) апрацоўвалі рэпертуар. Пра міхалоўскі драматычны калектыў чуваць было далёка...

Як бы насуперак маім чорным разважанням, нешта ў Міхалове ўсё-такі дзеецца. Мне давялося пабываць там у канцы студзеня, калі адбывалася Ваяводская сустрэча калядпікаў. І няхай сабе хтосьці гаворыць што хоча, але найбольш горача публіка ўспрымала менавіта беларускія калектывы! А сабралася іх тут — з усёй усходняй Беласточчыны — нямала: і калектыў „Згодныя макі" з Райска, і „Красуні" з Краснага Сяла, і „Жураўінкі" з Агароднічак, і „Цаглінкі" з Ляўкова, і „Арэшкі" з Арэшкава, і калектыў з Орлі, і два зусім маладыя калектывы — з Паўлаў і Козлікаў, яшчэ нават „няхрышчаныя", і дэбютант — калектыў са Збуча, і дзіцячыя калектывы — з Чыжоў, Кленік, Міхалова, Беластока.

Менавіта з Беластока выступіў вельмі маляўнічы дзіцячы калектыў, што працуе пры царкве св. Ільі. Спявала сорак двое дзетак, а кіравала імі Ала Дубец. У калядных выступленнях важны не толькі спеў, але і візуальны бок. Чаго толькі ў гэтых дзетак не было! І звязда, і калыска з Нованароджаным, і анёлы, і кветкі, і дзеткі ў кажушках навыварат! Ала Дубец акампанавала на акардэоне, а дзеткі спявалі па-беларуску, рабілі пры гэтым устаўкі папольску, па-англійску, па-італьянску, быццам яднаючы гэтым самым увесь род чалавечы, розныя веравызнанні. Цудоўнае было гэта выступленне!



*Вельмі цікава выступіў дзіцячы калектыў, што працуе пры царкве святога Ільі ў Беластоку.*



*Ніна Мушынская на гэты раз прыехала на агляд з Ялоўкі.*

Чатыры жанчыны са Збуча выступілі на такім аглядзе ўпершыню. Праўда, спявалі з акампанементам, на акардэоне іграў Міхась Аўхіменя з Гародні, іхны інструктар, але спявалі надта па-свойску. Дырэктар Дэркоўскі, найважнейшы ў нас сёння ад культуры, сцвярджае, што Міхась Аўхіменя, як ніхто з прыезджых, умее слухаць тутэйшыя калектывы, а гэта залог поспеху. Умее дастасавацца да іх і павесці ў адпаведным напрамку. Шчыра, аўтэнтычна. Іншыя вучаць спяваць неяк не па-тутэйшаму...

І ўявіце сабе, каго выбрала журы з усіх беларускіх калектываў на міжваяводскі агляд у будучым годзе?! Менавіта калектыў са Збуча, а яшчэ ж і „Жураўінкі" з Агароднічак. Брава, жанчынкі!

А яшчэ хачу сказаць пра Ніну Мушынскую. Ніколі не думалася мне, што яшчэ калі-небудзь убачу яе на сцэне. Ужо ж на святкаванні саракагоддзя яе Гарадоцкага хору прыехала яна з Дома грамадскай апекі ў Ялоўцы толькі як госць. Праўда, выцягнулі яе тады з глядзельнай залы на сцэну, каб павіншаваць як стваральніцу калектыву і ўручыць узнагароду. Ужо аднак яна ў той час не выступала.



*А мо дапамогуць? — трэнер Марэк Кузьма (злева) і старшыня Гміннай рады Багуслаў Асташэўскі.*

А тут бачу на сцэне Ніну Мушынскую. Праўда, не выступіла яна ў гэты раз у сваім, беларускім рэпертуары, а ў сцэнцы „Król Herod", але яшчэ раз даказала, што не ўсё скончана. Уся ў белым, у залатой кароне — ні то анёл, ні то нейкая іншая нябесная істота. А побач з ёю — калегі з калектыву „Трэцяя маладосць", яе ж узросту і з таго ж дома, дзе прытулілася, здавалася б, на менш актыўныя гады жыцця гэтая жанчына з невычэрпнай энергіяй, нягледзячы на дзевяць дзесятак гадоў яе жыцця.

Шкада, што не заўсёды дзеецца ў Міхалове такая весялосць. Праўда, на днях адбылося тут наступнае мерапрыемства — на гэты раз з цыкла „Безыменная творчасць", над якім два гады працаваў менавіта Рышард Варабей. Не давялося нам паслухаць легенды з раёна Кнышынскай і Белавежскай пушчаў, але з Міхалоўскім цэнтрам культуры (дырэктар — Мікалай Грэсь) абяцаем трымаць сувязь.

Многія тутэйшыя людзі лічаць, што праз дзесяць гадоў Міхалову пагражае цалкавітая дэградацыя. Прадпрыемствы, кажуць яны, „падаюць як мухі". У такой сітуацыі тым большае значэнне мае культурнае ажыўленне гэтага асяроддзя.

Тое што здарылася нядаўна ў міхалоўскім спорце, было неспадзеўкай для ўсіх. Пятае месца ў катэгорыі малодшых юніёраў заняла ў краёвым чэмпіянаце „Piłkarska kadra czeka", што адбываўся ў ліпені мінулага года ў Пільскім ваяводстве, менавіта міхалоўская каманда! Трэніруюць каманду Марэк Кузьма і Войцех Сова.

Няма стадыёна, дзе можна было б трэніравацца, наракаюць маладыя трэнеры. Стадыён наш у страшэнным стане, і ніхто не бярэцца яго адрамантаваць. Няма грошай на абсталяванне. Гмінныя ўлады пра нас дбаюць як могуць, але гэтага замала. Часам трэба далажыць крыху і ўласных грошай.

Маладыя трэнеры вядуць чатыры групы, гэта каля сотні дзяцей. Марэк працуе інструктарам па спорце ў Гмінным цэнтры культуры, скончыў Сельскагаспадарчы тэхнікум у Міхалове, а Войтэк трэніруе грамадскім чынам, ён завочна штудзіруе гатэлярства.

На працягу апошніх адзінаццаці гадоў не было тут нікога, хто б заняў месца прынамсі ў краёвым фінале. А ў мінулым годзе яны занялі першае месца ў акруговым класе юніёраў і другое месца ў макрарэгіёне, прайграўшы толькі з „Алімпіяй" з Замбрава. У чэмпіянаце Польшчы чатыры асобы з іх каманды выбраны ў найлепшую адзінаццатку турніра, а траіх трэнер маладзёжнай зборнай запрасіў на тэсты ў Варшаву.

Моладзь лічыць, што варта дапамагчы ім больш дзейсна. Старшыня Гміннай рады Багуслаў Асташэўскі мае свае рацыі. Ужо трыццаць мільёнаў, кажа ён, пайшло на выраўнанне стадыёна, а камяні зноў павылазілі. Проста, было калісь выбрана для стадыёна неадпаведнае месца. Вось ад першага верасня, абяцае ён, адчыніцца новая школа са стадыёнам, там змогуць трэніравацца дзеці.

Але маладыя людзі хочуць мець сваё месца і пачаць трэніроўкі як мага хутчэй. Многа іх і шмат у іх энергіі. І, пэўна, варта ім дапамагчы.

**Ада Чачуга**
**Фота аўтара**

# Гала-канцэрт

Не ведаю, ці было яшчэ ў Беластоку нейкае мерапрыемства, дзе б сабраўся такі штаб ахоўнікаў парадку, лекараў „хуткай дапамогі", а рэпарцёраў і фотарэпарцёраў — што і не злічыць. Адным словам, на ўрачыстым, прысвечаным саракагоддзю БГКТ, гала-канцэрце III Агульнапольскага фестывалю „Беларуская песня'96", які адбыўся 17 лютага г.г. у зале „Влукняжа" пару тысяч сабраных маглі спакойна аддацца эмоцыям, звязаным з слуханнем лаўрэатаў конкурсу „Беларуская песня'96" і калектыву песні і танца „Крупіцкія музыкі" з-пад Менска з Рэспублікі Беларусь.

Здаецца, прыйшоў сюды „хто жывы", але ахоўвалі, вядома, галоўным чынам знатных гасцей, што прыехалі з краіны і з-за мяжы.

Перш за ўсё гасцямі былі прэм'ер-міністр урада РП Уладзімеж Цімашэвіч, пад ганаровым патранатам якога адбываўся фестываль, а з Беларусі — віцэ-прэм'ер Уладзімір Русакевіч. Былі міністры культуры Польшчы — Здзіслаў Падканскі і Рэспублікі Беларусь — Аляксандр Сасноўскі, віцэ-міністр адукацыі РП Казімеж Дэра і міністр адукацыі РБ Васіль Стражаў, паслы Аляксандр Малахоўскі, Сяргей Плева, Артур Смулка і іншыя. З мясцовых гасцей: архіепіскап Сава, Генеральны консул РБ у Беластоку Міхаіл Слямнёў, ваявода Анджэй Гаеўскі, прэзідэнт Беластока Кшыштаф Юргель, старшыня Гарадской рады Ян Хайноўскі і многа-многа іншых гасцей.

З Гародні прыехаў польскі консул Марыюш Машкевіч, старшыня Саюза палякаў у Беларусі Тадэвуш Гавін ды іншыя.

Пасля прамоў, уручэння ўзнагарод міністрамі ды ваяводамі, выступалі ўсе „экстра", бо ўжо на гала-канцэрт былі выбраны самыя, самыя лепшыя самадзейныя артысты.

Паліцыя затрымала мой самаход ужо на вуліцы Антанюкоўскай, не дазваляючы ўехаць не толькі на пляц пры зале спартыўнага клуба „Влукняж", але і на вуліч ку, што вядзе да гэтага пляца. Мо таму, што там было ўжо цэлае мора іншых аўтамашын, а мо не ўсім гэта сёння было дазволена. Як жа я пайду, калі сыпнуў такі снег? Што будзе з маёй прычоскай? „Panowie, ja z „Niwy", muszę być na koncercie!" — узмалілася я, выйшаўшы з машыны. „З „Нівы"?" — хлопцы-паліцыянты пераглянуліся, шырока ўсміхнуліся і... загадалі мне ўехаць.

Дай Божа, каб, як сказаў у сваёй прамове прэм'ер В. Цімашэвіч, „Польшча была прыязнай айчынай для ўсіх, хто тут жыве".



**Ада Чачуга**
**Фота Ганны Кандрацюк**

# Разам з пушчай

1 а затым 20 лютага г.г. у сядзібе гайнаўскіх праўленняў гміны і горада сустракаліся прадстаўнікі прыпушчанскіх гмін. Спачатку прыбылі войты, прывезлі заявы праўленняў гмін аб сваёй прапанове ўваходу ў Згуртаванне гмін Белавежскай пушчы і разгледзелі прапанову праекта статута Згуртавання, пазнаёміліся з дзейнасцю і прапановамі Фонду развіцця Беластоцкага ваяводства, фактарамі супрацоўніцтва са Згуртаваннем на карысць развіцця рэгіёна і ўзнікнення Цэнтра ўспамагання бізнесу і Інкубатара развіцця прадпрымальніцтва, а ў будучыні — Агенцтва лакальнага развіцця. Выпрацавалі тады канчатковую версію статута і вызначылі дату І Агульнага заснавальніцкага сходу Згуртавання. Другі раз сабралася Рада гмін Белавежскай пушчы — войты гмін, у тым ліку бурмістр Гайнаўкі, і старшыні радаў гмін — **Гайнаўскай, Нараўскай, Нараўчанскай, Чаромхаўскай, Кляшчэлеўскай, Белавежскай, Чыжоўскай і Дубіцкай.**

— Сядзіба Згуртавання — горад Гайнаўка, — кажа сакратар Гарадской управы **Ежы Сірак**. — Цэнтр успамагання бізнесу існуе ўжо пры Гарадской управе, Інкубатар плануецца пусціць у рух на базе маёмасці былога кааператыва „Чын" (хочам пераняць два фабрычныя цэхі). Фонд развіцця Беластоцкага ваяводства ўжо рэзерваваў канкрэтныя сродкі на Інкубатар прадпрымальніцтва ў Гайнаўцы — на рамонт ды мадэрнізацыю тых цэхаў. Маёмасць гэтая, будучы пакуль што ўласнасцю Гайнаўкі і Фонду, будзе юрыдычна перададзена Згуртаванню гмін Белавежскай пушчы. Галоўная мэта нашага Згуртавання — усялякая дзейнасць для актывізацыі нашага рэгіёна і гаспадарчага развіцця.

Старшынёй згуртавання выбрана **Ядвіга Рудзіньска-Патэюк**, бурмістр Гайнаўкі.

— Разам, у групе, з лепшым вынікам будзем прапагандаваць тое, што маем, — сказала яна. — Трэба заахвоціць да інвеставання на нашай тэрыторыі. Гміны хочуць упарадкаваць мясцовую інфраструктуру, камунальнае асначэнне, неабходная пабудова ачышчальняў сцёкаў, сучасных сметнікаў...

— „Пушчанскія" гміны жывуць у пушчы і з пушчы, — звяртаюся да Е. Сірака. — Як бачаць самаўрады і жыхары прапанову пашырэння абшару Белавежскай пушчы?

— У самаўрадаў трохі іншы погляд. Рацыянальны. Мы не за празмерную эксплуатацыю, ні за тое, каб пушчу зачыніць. Наш погляд вынікае з вопыту гмін, з гаспадарнасці, эканомнасці, дбайнасці. Надзеемся, што ў будучыні ўдасца нам выпрацаваць такія пазіцыі, якія будуць адобраны і прадстаўнікамі цэнтральнай адміністрацыі, і навукоўцамі, і самаўрадавымі асяроддзямі. Інтарэсы нашых гмін шмат у чым сходзяцца, і наша супольная дзейнасць у шмат якіх галінах можа нам прынесці лепшыя вынікі. Раней кожная з гмін старалася здабыць сродкі для сябе, а цяпер больш эфектыўная дзейнасць ад імя большай і мацнейшай групы павінна даць лепшыя магчымасці здабыць вонкавыя крыніцы фінансавання як далейшай аховы асяроддзя, так і развіцця нашага рэгіёна ў такім напрамку, які б падымаў жыццёвы стандарт нашых жыхароў. Узніклі б новыя месцы працы, Інкубатар прадпрымальніцтва дапамог бы беспрацоўным заснаваць свой бізнес... Кожная гміна мае ўжо цяпер што запрапанаваць. Я. Рудзіньска-Патэюк занялася тэмай камунальнай інфраструктуры рэгіёна, войт Белавежскай гміны Анна Байко — турызму Белавежы і аколіц, войт Гайнаўскай гміны Вольга Рыгаровіч — развіцця сельскай гаспадаркі і збору лячэбных траў...

Асноўнай мэтай Згуртавання гмін будзе ўспамаганне ідэі самакіравання і прадстаўлянне інтарэсаў паасобных гмін і ўсіх разам — стварэнне ўмоў развіцця гаспадарчай дзейнасці паасобных суб'ектаў. Мае яно намер весці на тэрыторыі гмін супольную экалагічную дзейнасць, дзейнасць грамадска-гаспадарчую, з асаблівай увагай да аховы асяроддзя, актывізаваць мясцовае грамадства ў напрамку прадпрымальніцтва, развіваць мясцовую „малую" прамысловасць, асабліва прадуктовую і драўнінную, накіроўваць сельскую гаспадарку на вытворчасць „здаровых прадуктаў" у „экалагічных" і „інтэгральных" гаспадарках. І, вядома, развіваць паслугі, асабліва турызм і агратурызм ды гандаль, асабліва з усходам. Неабходная інтэграцыя гаспадаркі з падобнай у іншых краінах, асабліва — увядзенне еўрапейскіх стандартаў у вытворчасці, паслугах і якасных нормах, развіццё на еўрапейскім узроўні тэхнічнай інфраструктуры вёсак. Супольная дзейнасць усіх гмін будзе больш плённай ва ўспамаганні рэструктурызацыі ды ў прыватызацыйных працэсах, давесці можа да лепшага выкарыстання, згодна са спецыфікай і патрэбамі гэтага рэгіёна, краёвых і замежных фондаў, даступных напрыклад у рамках праграм дапамогі. Будзе магчымым больш эфектыўнае хадайніцтва ў справах атрымання „фінансавых падмацовак" ці дапамогі ў абсталяванні з краёвых і замежных крыніц. Прадстаўнікі Згуртавання маюць надзею вырашыць праблемы аховы асяроддзя, асабліва ў каардынацыі з праграмай „Зялёныя лёгкія Польшчы".

— Згуртаванне будзе здзяйсняць свае мэты наступным чынам, — чытаем у Статуце, які незадоўга будзе прадстаўлены ў суд для рэгістрацыі: — ініцыяваць гаспадарчыя і культурныя пачынанні, арганізаваць дыскусіі, лекцыі, сходы, сімпозіумы, конкурсы, супрацоўніцтва і ўзаемную дапамогу членаў згуртавання... Супрацоўнічаць з асобамі, вышэйшымі навучальнымі ўстановамі, навуковымі інстытутамі, органамі дзяржаўнай адміністрацыі, самаўрадавымі і незалежнымі ўстановамі і гаспадарчымі аб'ектамі ў краіне і за мяжой у галіне збору і абмену інфармацыяй ды эканамічным і гаспадарчым вопытам. Згуртаванне будзе выконваць экспертызы праектаў і кансультацыйныя паслугі ў галіне гаспадарчых і капіталавых інвестыцый, фінансаў, эканомікі, гаспадарчага закону, кіравання і маркетынгу, парад і юрыдычных паслуг, пасрэдніцаць у паручыцельствах і крэдытных гарантыях, хадайнічаць у здабыцці фінансавых сродкаў у фінансавых установах ды арганізацыях у краіне і за мяжой, займацца *лізінгавай* дзейнасцю, праводзіць інтэгруючую дзейнасць у гмінах, — таксама і культурную, спартыўную, адпачынковую.



*Ежы Сірак: — Незадоўга дакументы заснавання Згуртавання пойдуць на рэгістрацыю ў суд.*

Згуртаванне будзе весці фінансавую дзейнасць на падставе гадавых бюджэтаў. Маёмасць згуртавання — адздзельная ад маёмасці членаў Згуртавання. Наглядальная ўлада Згуртавання гмін Белавежскай пушчы — Беластоцкі ваявода.

**Міра Лукша**
**Фота аўтара**

# Рок-канцэрт

Канцэрт „Кардона", „Р.Ф. Брагі" і іх польскіх сяброў з гурту „Drapped Fel" выпаў якраз у час, калі ў Беластоку ішоў рок-агляд „Згжыты". Магчыма, з гэтай прычыны арганізатарам, значыць Звязу беларускай моладзі (пад патранатам „Газеты выбарчай") не ўдалося запоўніць усёй залы ў Акадэмічным цэнтры культуры. У пятніцу сабраліся тут самі свае, публіка, якая рэгулярна прыходзіць на беларускія маладзёжныя мерапрыемствы. Тым не менш, прысутныя мелі добры час, як кажуць амерыканскія беларусы.

Абодва беларускія гурты зайгралі мацней, чым звычайна. Музыкі „Кардона", якія першымі выйшлі на сцэну, безумоўна прагрэсіруюць. Гралі галасней, але больш плаўна. Шкада ўсётакі, што ў іх складзе не было гармоніка Петруся Пракопчыка. З ім на „Бардаўскай восені" „Кардон" гучаў больш гармонічна, і своеасабліва.



*Хрыстафор Сяськевіч.*

З гармонікам, ці без яго, „Кардон" застаецца найбольш гарадскім беларускім рок-гуртом. Пішучы „найбольш", маю на ўвазе не толькі Беласточчыну, але ўсю беларускую зямлю, са сталічным Мінскам уключна. Вядома, процьма рок-музыкантаў грае лепей за хлопцаў з „Кардона", але падобнага духа як у Хрыстафора Сяськевіча, вакаліста і аўтара тэкстаў „Кардона", няма ў нікога.

Вострa зайграла таксама „Брага", але гэты гурт ніяк не можа дайсці да ладу пасля персанальных зменаў. Юрка Асеннік далучыўся да „Брагі" крыху выпадкова і надалей не ёсць з ёю за адно. Манерная поза, цыгарэта ў руцэ не заменіць звычайнага рамясла. Асеннік умее спяваць, але якраз рок-вакаліста з яго не будзе.

Асобная справа — гэта якасць гуку падчас канцэрта. З таго, што спяваў Хрыстафор, я разумеў толькі жалюгодную частку, а спяванага Юркам — нічагуські. А для беларускамоўных гуртоў тэкст мусіць быць не менш важны за музыку.

**Алег Латышонак**

# БІБЛІЯГРАФІЧНЫ КУТОЧАК


ARTYCH Wojciech: Gorąca jesień na Białorusi? *Tygodnik Solidarność* 1995, nr 37, s. 8.

(Belarusika) Albaruthenica. Kn. 2-3. Minsk 1992, 1994; Rec. POŹNIAK Telesfor, *Slavia Orientalis* 1995, nr 1, s. 152-157.

BERDYCHOWSKA Bogumiła: Wobec mniejszości. *Społeczeństwo Otwarte* 1995, nr 4, s. 3-6.

— Polska polityka narodowościowa w latach 1989-1994. *Kultura* 1995, nr 5, s. 89-97.

BISIAK Jerzy: Bez zasadniczych konfliktów. (Biuro d/s Kultury Mniejszości Narodowych). Rozm. przepr. Stefan Opara. *Dziś* 1995, nr 8, s. 42-46.

BORKOWICZ Jacek: Biało-czerwono-biała schodzi z masztu. (Wybory parlamentarne). *Więź* 1995, nr 7, s. 11-12.

Białoruskie Zeszyty Historyczne Nr 1 (3). Białystok 1995; Rec. MAJECKI Henryk, *Białostocczyzna* 1995, nr 4 (40), s. 157.

Cabanowski Marek: Generał Stanisław Bułak-Bałachowicz. Warszawa 1994; Rec. PALUSZYŃSKI Tomasz, *Studia z Dziejów Rosji i Europy Środkowo-Wschodniej* 1995, t. 30, s. 187-188.

CZECH Beata, WRÓBLEWSKA Anna: Różnice w obrzędach i zwyczajach Białorusinów, Polaków i Litwinów na wschodniej Litwie. *Konteksty* 1993, nr 3/4, s. 76-84. Sum.

FAJNHAUZ Dawid: Śladami Wielopolskiego: Wiktor Starzeński i jego projekty ugody polsko-rosyjskiej na Litwie i Białorusi (1861-1863). *Przegląd Historyczny* 1994, z. 3, s. 239-253.

GOMÓŁKA Krystyna: Białoruska Chrześcijańska Demokracja w latach 1918-1939. *Studia z Dziejów Rosji i Europy Środkowo-Wschodniej* 1994, t. 29, s. 57-65. Rez., Sum.

GOMÓŁKA Krystyna: Białorusini w II Rzeczypospolitej [w:] Zeszyty Naukowe Politechniki Gdańskiej. Ekonomia z. 31 (1992). Rec. WOJNICKA, *Studia z Dziejów Rosji i Europy Środkowo-Wschodniej* 1995, t. 30, s. 190-193.

HALICKI Sławomir: Muszę być ostrożny ale nie bojaźliwy. Z pełnomocnikiem Wojewody Białostockiego d/s mniejszości narodowych, etnicznych i wyznaniowych... rozm. przepr. Tomasz Wiśniewski. *Kurier Poranny*, 31.01.1996 r. nr 26 (1630), s. 3, foto.

KALINA Jerzy: Białorusini w Polsce. Próby analizy sytuacji mniejszości narodowej. *Dziś* 1995, nr 8, s. 47-53.

KSIĄŻEK Marek: Syndrom złapanej ryby. Białorusinom nigdy nie wiodło się dobrze. (Biografia Andrzeja Gawryluka). *Dziennik Pojezierza*, 12-14.01.1996 r.; Rep. JACKIEWICZ Mieczysław, Listy do redakcji. *Tamże* , 19-21.01.1996 r.; Odp. KSIĄŻEK Marek, *Tamże* .

Łaniec Stanisław: Białoruś w dobie kryzysu społeczno-politycznego (1900-1914). Olsztyn 1993; Rec. KORZENIOWSKI Mariusz, *Studia z Dziejów Rosji i Europy Środkowo-Wschodniej* 1995, t. 30, s. 182-183.

Matusak Piotr: Polska - Białoruś 1918-1945. Warszawa 1994; Rec. MATUSAK Piotr, *Mazowieckie Studia Humanistyczne* 1995, nr 1, s. 164-166.

NAJDER Zdzisław: Białoruś a Polska. *Arcana* 1995, nr 4, s. 46-49.

ONISZCZUK Jan: W cieniu Łukaszenki. Sprawa supraska jest bacznie obserwowana na Białorusi. *Kurier Poranny*, 27.01.1996 r., nr 23 (1627), s. 8, il.

(PAP): Pełnomocnik chroni mniejszość (Sławomir Halicki z Białegostoku), *Kurier Poranny*, 31.01.1996 r., nr 26 (1630), s. 1.

(sab): Supraśl: test ekumenizmu. Decydująca rozprawa bez udziału prawosławnych. *Kurier Poranny*, 1.02.1996 r., nr 27 (1631), s. 1, 3.

SADOWSKI Wojciech: Przesiedleńcy z Białorusi w procesie migracji i osadnictwa. (Fragm.). *Nadwarciański Rocznik Historyczno-Archiwalny* 1995, nr 2, s. 104-126.

SKARADZIŃSKI Bohdan: Mróz po kościach od Białorusi. *Arcana* 1995, nr 4, s. 50-53.

Zaprudnik Jan: Belarus: at a crossroad in history. Oxford 1993; Rec. TOMASZEWSKI Jerzy, *Sprawy Narodowościowe* 1995, z. 1, s. 269-272.


**P. C.**

# Як мне папалі сакрэтныя матэрыялы

Прачытаў я ў газетах, што можна байкавата зарабіць, прадаючы дапытлівым журналістам розныя сакрэтныя матэрыялы. Як здабыць такі матэрыял, не трэба доўга думаць: гэта м. інш. здымкі чыгуначных станцый, якія рабіць вельмі строга забараняецца з прычыны, відаць, іх стратэгічнай важнасці. Прыхапіў я фотаапарат і падаўся ва ўсходнясценныя маладнякі, якія выраслі на нядаўніх яшчэ бульбянісках і аўсянісках. Шчасліва дабраўся я да чыгуначнай лініі, па якой курсіруюць нашы тутэйшыя *еўрасіці*, і ўжо намерыўся падыходзіць да бліжэйшай, зарослай усялякай флорай, станцыі. Нечакана пачуў гул цягніка і, на ўсякі выпадак, схаваўся ў кусты. Цягнік імчаўся з такой хуткасцю, што не нам, а японцам і французам заняло б ад гэтага мову. Анямеўшы, сачыў я крадком за магутнай машынай. І вось што бачу. Вагонным калідорам уцякаюць два мужчыны ў капелюшах, цёмных акулярах і шынялях з пастаўленымі каўнерамі; твараў іх не відаць. Рыхтык шпіёны з малюнкаў у „Праўдзе” пяцідзесятых гадоў. А гоняць іх таксама два: маладзёны сінявокія і шакаладашчокія ў белых рубашках і чырвоных гальштуках. Стройныя яны, быццам дэлегаты ад СЗМВ і ЗСМВ на VIII з’езд партыі, якія зрабілі супольны здымак з Эдвардам Геркам і Пятром Ярашэвічам. Вось-вось даганяюць уцекачоў. Тыя, у ўжо безвыхаднай сітуацыі, выкідаюць праз акно нейкія паперы. Поезд з грукатам павёз акцёраў напружанай сцэны ў сінюю даль, а я, уважліва азірнуўшыся, выскачыў з кустоў і паўзком, прытуляючыся да зямелькі, быццам немаўлятка да матчыных грудзей, хуценька прыбраў выкінутыя паперы. Не меў я ніякага сумнення, што гэта матэрыялы выключнай сакрэтнасці і вартасці. З сэрцам у горле вярнуўся я *восвояси*, шчыльна закрыў шторы ў вокнах, запаліў інфрачырвоную лямпу і выняў сваю здабычу. Агледзеў далікатна, акуратна расклаў на стале і ўзяўся па чарзе чытаць. На першым лістку было так:

*размываецца белая столь*
*і закрываўленыя вочы*
*і талеркі*
*і бутэлькі*
*губляюць свой бляск*
*дзе мяса*
*дзе хлеб*
*дзе агуркі соленыя*
*яшчэ ўчора зялёныя*
*дзе ціхія селядцы*
*дзе тост у паўслове забыты*
*дзе бігас*
*дзе ты*
*дзе я*
*разглядаюся*
*сталы пульсуюць*
*няпрошанымі размовамі*
*у маіх руках дрыжыць*
*маянэз*
*вусны гараць*
*сніцца кефір*
*наліваюць*
*кідаюся ў вір*

Адвярнуў я лісток на другі бок, а там напісана так:

*Той, для каго размываецца белая столь, застаўся ў кантынууме, што выпаў з часу. Спробы вярнуцца — беспаспяховыя, „губляюць свой бляск”. Карціны перажывання — сляпыя, і колькі б іх не было, яны не набліжаюць таго, хто іх бачыць, да разумення, што яны азначаюць („ціхія селядцы” ) і што азначаецца імі, не ўпускаюць у сваю таямніцу. Убачанае — знак цуду, і сведчыць пра ўнутраную відушчасць таго, каму яна адкрываецца. Для староннягa гледача тое, што ён бачыць — маянэз і бігас, але для творцы — гэта трагічная і невымоўная інгабітацыя паралельных кантынуумаў, уласцівасць самога жыцця. Гэта цуд і, каб пераканацца ў яго ісціннасці, належыць думаць і перадумваць, як цяпер быць („кідаюся ў вір” ). Думанне і перадумванне — гэта тое, што чалавек мусіць рабіць сам, і якраз праз думанне і перадумванне чалавек апынаецца самому сабе сваім.*

Другі лісток быў запісаны нейкім невядомым мне шрыфтам і я, пакуль, адлажыў яго на канец. На трэцім лістку стаяла:

*Я даю ў твае рукі далонь,*
*Ты мне ружу даеш калючую*
*І на шыпе нясеш агонь.*
*Не пытай, не пытай, ці балюча мне.*
*Я цябе не шукаю ўжо,*
*Не блукаю я ў цемры рукою.*
*Крываточыць мая далонь*
*Слязой горкай шчаслівага болю.*
*Раздувай, раздувай той агонь,*
*Хай у цемры гарыць пажарам,*
*Хай раскоціцца ў цішы гром,*
*Разарве хай маланка хмары.*
*Дзе той гром, дзе пажар, дзе вагонь?*
*Гасне полымя, цемра гусцее.*
*Горкім сокам паўзе ў далонь*
*Сляза; пырснула, гасне, мутнее.*
*Не давайце далоні таму,*
*Што скалоў мне і рукі, і ногі.*
*Каб ні болю не чуў, ні вагню —*
*Хай нягоднік пішчыць да знямогі!*

На чацвёртым лістку знаходзіўся вось які тэкст:

*„Ніва” і „Белавежа”,*
*Гэта газета і вершы.*
*Для нашага народа*
*Літаратура, а не мода.*
*Чытачы „Ніву” чытаюць*
*І „белавежцаў” паважаюць.*
*Сярод іх Лукша Міра*
*Піша адважна і шчыра.*
*Піша алоўкам і пяром,*
*Калі сядзіць за сталом.*
*Яна пісьменніца і паэтка —*
*Піша вершы нярэдка.*
*Мо ёй цяжка жывецца,*
*Што аж рука трасецца*
*І праз цэлы год*
*Мае многа прыгод.*
*Вядзе яна барацьбу,*
*Быццам камбайн малацьбу —*
*Каб людзі не сварыліся*
*Але прымірыліся.*
*Яе цудоўная „Выспа” —*
*Як лазовая калыска.*
*„Дзікі птах верабей”*
*Падымае пачуцці вышэй.*
*Цудадзейная „Замова” —*
*Прыгожая родная мова.*
*Таксама і „Ёсць”*
*Не кідае ў злосць.*
*Мае яна павагу,*
*Мужнасць і адвагу.*
*Яе месца ў энцыклапедыі,*
*А не ў камедыі.*

На чарговай картцы была такая вось інструкцыя:

*На аўтарскія сустрэчы трэба ездзіць толькі дарогамі з асфальтавым палатном, мінаючы, каб не паламаць рысораў, ухабістыя гравейкі. Машыну стаўце на стаянцы. Калі збярэцца публіка, сядзьце за сталом. Каб не мерзлі рукі, высцілайце стол саломай. Брудныя рукі мыйце вадой як крышталь. Калі вам украдуць самаход, вяртайцеся аўтобусам. На аўтобус чакайце на прыпынку. Не выбівайце ў пачакальні люксвераў — гэта павінны зрабіць хуліганы. Сядаючы на аўтобус, жадайце ад вадзіцеля білета. Не правозьце смярдзючых і выбуховых рэчываў. Выходзячы, праверце, ці прыехалі на патрэбную вам станцыю. Не забудзьце сказаць „Да пабачэння”.*

На наступным, вялікім лістку было напісана:

*Пра „Белавежу” у прадшколлі*
*Настаўніца спытала Колю.*
*Не чуў небарака, не знае,*
*І Нату позіркам пытае.*
*„Белавежа”, — падказвае Ната, —*
*Гэта такая ў лесе хата,*
*Дзе тата мой з Алесем Барскім*
*Апавядаюць дзецям казкі.*

Апошняя картка была запісана такім тэкстам:

*Учора звалачыўся ў Іерусалім і назад, усё роўна, што адбыўшы нейкае пакаранне. Запрасілі мяне ў тамашні ешыбот; чагосьці такога ніколі не было дагэтуль — у важнейшых справах клічуць мяне, быццам шануючы маю ўжо паўінваліднасць. Шматлюднасць была памяркоўная: элітарны натоўп, сотні і сотні; падвяла неабходная прапаганда. Зачытаў я тамака сваю ацэнку паслявыбарчай сітуацыі ў Канадзе. Самому дзіўна, што прачытаў тое і не знерваваўся. Гаворка атрымалася сэнсоўнай, у інтэлігентным тэмпе. Быў там дарадца брытанскай каралевы, вечны наракайла — руцінны разведчыцкі візіт: захацеў даўмецца, што здарылася. Прыліп да мяне, каб высмактаць сякую-такую інфармацыю: пытаў, што думаю пра склаўшуюся сітуацыю; адказ: Клінтаніха выкрунецца, але наменклатура не мае выйсця. Зваліўся і гурт парламентарыяў — таемнасць інтрыгуе. З тлумных гутарак мала што памятаю — хаос, гармідар, паранойя, ананімныя знаёмствы, такія лішнія мне. Нейкі ананімнік назваў мяне ворагам, чым абудзіў нямала прысутных: не маглі надзякавацца мне. Зноў панесла па баразнах кабыла эмоцыі. Стрэс быў як халера, але і знакаміты прэтэкст, каб больш не швэндацца на падобныя зборышчы: ужо непрадуктыўныя. Пашумеў я там яшчэ паўтары гадзіны і, пакінуўшы аўдыторыю, з пазяхлівай супакоенасцю пайшоў на беластоцкі цягнік.*

*Вечарам пазваніў Цімашэвіч, пытаў што рабіць: ці даць па 10 мільёнаў, ці па шклянцы кіслага малака...*

Так было напісана на ўсіх чытабельных картках. Асталася яшчэ толькі спомненая ўжо нечытабельная. Пэўна тут запісана сакрэтным шпіёнскім шрыфтам нейкая вельмі важная тайна, падумаў я. А можа гэтая пісулька напісана не тайным шрыфтам, а алфавітам роднай шпіёнам мовы? — прыйшло мне ў галаву потым. За расшыфроўку я не браўся: палічыў сабе непасільнай. Схапіўся за пошукі алфавіта. На від мог гэта быць грузінскі або арабскі. Узяў я *Lehrbuch der arabischen Sprache*[1], параўнаў са знойдзенай пісулькай, але падабенства не знайшоў. Аставалася магчымасць, што сакрэтны тэкст напісаны грузінамі. Пакорпаўся я ў сваёй бібліятэчцы, знайшоў кнігу *Revista de las lenguas transcaucasianas*[2], дакладна вывучыў праблему і прыйшлося зняць свае падазрэнні з супляменнікаў легендарнага сына генерала Пржэвальскага. Яшчэ аставалася надзея, што можа гэта быць напісана на мове нейкіх палінезійцаў або індзейцаў. Прагляну я дакладна 42-томную *New Stanford Encyclopedia of Science*[3] — безвынікова. Ужо ўзяў апальную картку ў рукі і рашыў выкінуць на сметнік, калі засвістаў чайнік і трэба было запарыць гарбату. Калі падымаў чайнік з кіпятком, з-пад электраплíткі выпала кніжыца, што служыла падпоркай замест адламанай ножкі, п.з. *Review of Modern Revolutionary Art*[4], выдадзеная Філіяй Лонданскага універсітэта ў Бульбатаўне. Гартаў я яе няспешна і ў раздзеле *Contemporary Media of Class Struggle*[5] пасля пункта *Chemical Weapon*[6] у алфавітным парадку напароўся я на пункт *Cyrillic Playboy Alphabet*[7]. Гэты, упершыню мною бачаны, алфавіт нешта мне напамінаў. Так! Гэта было тое, чаго я акурат шукаў. Зараз жа прачытаў „тайны” змест. Вось ён:

*Сто першы*
*Я сотню вершаў прысвяціў Белавежы*
*І стаў вялікім, быццам піраміда,*
*Што цудам свету лічыцца галоўным.*
*Я сотню вершаў прысвяціў Белавежы —*
*Не бачу я сабе паэтаў роўных —*
*Гляджу на іх з пагардай і агідай.*
*Я сотню вершаў прысвяціў Белавежы*
*І стаў вялікім, быццам піраміда.*

Прачытаўшы гэты верш, успомніў я знойдзенае з ім разам і ахапілі мяне мешаныя пачуцці. Знойдзены мною матэрыял, гэта несумненна творы нашых „белавежцаў”, пазбаўленыя ліхадзеямі подпісаў аўтараў. Зацікаўленне імі з боку чужынскіх спецслужбаў сведчыць пра выключную вартасць нашай тутэйшай літаратуры. Непакоіць толькі тое, што аўтары самі не дацэньваюць гэтае вартасці, бо як жа тлумачыць факт, што такія каштоўнасці, замест у сейфе, апынуліся ў некампетэнтных руках і маглі быць прысвоены нейкімі чужымі пісакамі.

**Адам Маньяк**

---

*1/ Кніга для вывучэння арабскай мовы.*
*2/ Агляд закаўказскіх моў.*
*3/ Новая энцыклапедыя навукі Станфардскага універсітэта.*
*4/ Агляд сучаснага рэвалюцыйнага мастацтва.*
*5/ Сучасныя сродкі класавага змагання.*
*6/ Хімічнае ружжо.*
*7/ Алфавіт кірылічнага плейбоя.*

# РАДЗІМА — РОДЗІНА

### Частка XLVI

У гадах 1979—1989 я многа разоў наведваў Беларускую бібліятэку і Беларускі музей імя Францішка Скарыны ў Лондане. Сталася гэта магчымым дзякуючы прыхільнасці біскупа Часлава Сіповіча і святара Аляксандра Надсана. Асобы гэтыя былі сімваламі гарачай прывязанасці да беларускасці і лічылі, што абавязак служэння роднай нацыі таксама важны для святара як і абавязак служэння Богу. Біскуп Сіповіч ужо даўно не жыве, а святар Аляксандр Надсан прадаўжае высокародную рэлігійную і нацыцянальную місію, ангажуючыся вельмі моцна ў дапамогу для насельніцтва Беларусі з забруджаных радыяцыяй зонаў. Вялікую ролю ў беларускім жыцці ў Англіі, а таксама ў дзейнасці Скарынінскага беларускага цэнтра адыгрываў Янка Міхалюк, які на працягу многіх гадоў быў старшынёй Згуртавання беларусаў Вялікабрытаніі. Янка Міхалюк, наколькі мне вядома, не меў вышэйшай, а быць можа і сярэдняй адукацыі. Аднак ад прыроды быў чалавекам надзеленым вялікім розумам і сваім мысленнем агортваў не толькі жыццё беларускай эміграцыі але і жыццё беларускага народа ўвогуле. Дзякуючы прыроджаным здольнасцям, добра ўладкаваўся ў Англіі, меў прыгожы дом, цудоўную жонку спадарыню Лёлю і трох высокаадукаваных сыноў. Увесь вольны час прысвячаў ён скарынінскаму цэнтру. І вельмі часта, нават глыбокай ноччу, калі я сядзеў у бібліятэчнай зале, нечакана паяўляўся і вёў са мною доўгія размовы. На жаль, не ведаю, у якім годзе Янка Міхалюк нарадзіўся. Думаю, што прыблізна каля 1920 года, а памёр у 1995 годзе. Вестка аб яго смерці была для мяне балючым ударам, з якім я да сёння не магу пагадзіцца. Асноўнай рысай светапогляду Янкі Міхалюка была талерантнасць. Будучы праваслаўным, удзельнічаў ён актыўна ў жыцці уніяцкай парафіі, якой кіравалі біскуп Часлаў Сіповіч і Аляксандр Надсан. Лічыў, што ўсе беларусы, незалежна ад рэлігійных канфесій, павінны яднацца на нацыянальным грунце і асабістай жыццёвай паставай і практыкай ажыццяўляў ды рэалізаваў гэты прынцып.

Пастараюся прывесці найбольш характэрныя выказванні Янкі Міхалюка аб беларускім характары і аб радзіме. Скажу толькі, што Янка Міхалюк паходзіў з палескага рэгіёна, аднак дасканала валодаў беларускай літаратурнай мовай, якую апанаваў шляхам самаадукацыі.

„Вы ведаееце, я то неяк не думаў аб тым, што чалавек мае малую і вялікую радзіму. Аднак мушу сказаць, што гэта сапраўды так, чалавек мае і малую, і вялікую айчыну, якія ён носіць у сэрцы. Мне то здаецца, што ў беларусаў пачуццё вялікае радзімы наогул слабейшае, чым у такіх народаў, як рускія, палякі, літоўцы ці ангельцы. Бачыце, у іншых народаў то, як гэта гаворыцца, ужо дзіця з малаком маці ссе тую свядомасць, што яно належыць да такой ці іншай нацыі. Ну, а пасля то гэту свядомасць паглыбляе і школа, і святыня, і армія, і вуліца. А ў нас так яно не было: школа была чужая, і армія чужая, а нават у святыні то таксама беларусу гаварылі, што ён паляк або рускі. Ну, і што там гаварыць, калі маломy беларусу ці беларусцы ўбіваюць у галаву ў школе, што яны рускія ці палякі. То такім чынам муцілі ў галовах, баламуцілі характары і ў канцы, калі беларусы выраслі, то ўжо не былі сабою. А калі нават каго не да канца збаламуцілі ў школе, то пасля ў царкве або ў касцёле ці ў войску дабівалі да канца. Яно вядомо, што нягледзячы на ўсё, многія беларусы заставаліся сабою, але была гэта нялёгкая справа. Бачыце, кожны беларус, які захоўваў у сваім сэрцы нацыянальныя пачуцці, безупынна сутыкаўся з перашкодамі: а то лаяў яго настаўнік у школе, а то лаяў яго святар у царкве ці касцёле, а то лаяў яго ў войску афіцэр. Зрэшты, не толькі афіцэр. Бачыце, многія, скажам, польскія шэраговыя салдаты, яны таксама лічылі сябе місіянерамі і рабілі розныя націскі на тых беларусаў, якія праяўлялі прывязанасць да беларушчыны. Часамі было такое, што так моцна націскалі на беларусаў, што тыя жылі пад сапраўдным тэрорам. Вядома, што ў такіх варунках трэба было моцнай вытрымкі, каб заставацца пры сваіх поглядах і пачуццях. Вядома, што з чымсьці такім то не спатыкаўся ні ангелец, ні француз, ні немец. Ні адзін з іх не мусіў нікому даказваць, што ён француз, ангелец ці немец і ніхто яго не лаяў за яго нацыянальную прыналежнасць. А беларус мусіў. Вось таму і не кожны вытрымліваў гэты націск”.

**Алесь Барскі**

## Позірк у мінулае

**10 сакавіка**

1876 г. — амерыканец Аляксандр Бэл правёў першую тэлефонную размову.

1959 г. — у Лхасе ўспыхнула паўстанне тыбетанцаў супраць кітайскага панавання. Далай-Лама змушаны да ўцёкаў у Індыю.

**11 сакавіка**

1887 г. — нарадзіўся паэт Алесь Гарун.

1938 г. — нямецкія войскі ўвайшлі ў Аўстрыю.

1960 г. — у ЗША запушчаны „Піянер-5", першы міжпланетны касмічны зонд.

1985 г. — Міхаіл Гарбачоў абраны генеральным сакратарам ЦК КПСС.

**12 сакавіка**

1881 г. — нар. Кемаль Атацюрк, турэцкі палітык.

1947 г. — прэзідэнт Гары Трумэн аб'явіў дактрыну гатоўнасці ЗША несці дапамогу вольным некамуністычным краінам.

1956 г. — памёр Балеслаў Берут, польскі палітык.

1966 г. — адкрыццё Беларускага этнаграфічнага музея ў Белавежы.

1994 г. — першыя 32 жанчыны высвячаны ў Брыстале пастарамі англіканскага касцёла.

**13 сакавіка**

1898 г. — у Менску распачаўся заснавальны з'езд Сацыял-дэмакратычнай партыі Расеі.

1938 г. — Адольф Гітлер аб'явіў далучэнне Аўстрыі да Германіі ў характары ланда „Остмарк".

1990 г. — з'езд народных дэпутатаў СССР устанавіў пост прэзідэнта СССР і скасаваў вядучую ролю КПСС.

**14 сакавіка**

1879 г. — нар. Альберт Эйнштэйн, нямецка-амерыканскі фізік.

1883 г. — памёр Карл Маркс, нямецкі філосаф.

1939 г. — Славакія аб'явіла самастойнасць.

1990 г. — у Боне пачаліся перагаворы „4+2" аб аб'яднанні Германіі.

**15 сакавіка**

1493 г. — Хрыстафор Калумб вярнуўся са свайго вялікага падарожжа падчас якога адкрыў новы кантынент — Амерыку.

1937 г. — у Чыкага адкрыта першы банк крыві.

1939 г. — Гітлер уключыў Чэхаславакію ў склад Германіі пад назвай „Пратэктарат Чэхіі і Маравіі".

1956 г. — прапрэм'ера мюзікла *My Fair Lady* Фрэдэрыка Лёва ў Нью-Йорку.

1990 г. — Міхаіл Гарбачоў абраны прэзідэнтам СССР.

**16 сакавіка**

1815 г. — Напалеон Банапарт вярнуўся ў Францыю са ссылкі на Эльбе.

1926 г. — каля Бостана праведзена запуск першай ракеты на вадкае паліва.

1940 г. — памерла Сельма Лагерлёф, шведская пісьменніца.

1986 г. — 75,5 прац. швейцарцаў выказалася супраць уваходу Швейцарыі ў ААН.

(Ш)

## ВЕР-НЕ-ВЕР

Астроне! Прысніўся мне вельмі страшны сон, але, здаецца мне, ён прадвяшчае добрае. Быццам усё адбываецца на вёсцы, дзе я калісь жыла, каля нашай хаты, у якой сёння жывуць мае браты. Ці то на панадворку, ці ў нейкім садочку ляжаць два браты — страшэнна пабітыя, быццам пасечаныя сякерай, з ранамі і сінякамі. Яшчэ яны жывыя, быццам недабітыя. Яшчэ былі нейкія людзі, дык мы пачынаем іх закопваць, але капалі занадта малыя магілы, а хлопцы ж былі вялікія, харошыя. Пачынаем засыпаць іх зямлёю, а яны ўсё яшчэ відаць.

Раптам бачу, што хаця мы выкапалі дзве ямы, дык тут ужо іх тры. У трэцяй ляжыць мой бацька-нябожчык. Мне стала шкада яго (я ж ведаю, што ён ужо не жыве) і я сілаю свайго розуму, энергіі, якая эманавала з майго цела, сваёй неверагоднай моцай, якая здавалася б, магла знішчыць усё, што трапіць пад руку, — ажывіла свайго бацьку. Бацька сеў (труны не было), усміхнуўся і... на гэтым сон скончыўся. Як ты думаеш, Астроне, што мяне чакае?

Міраслава

Міраслава! Гэты твой сон, на жаль, не прадвяшчае табе нічога добрага. Той жах, які ты ўбачыла на панадворку роднай хаты, папярэджвае цябе аб нейкай страшэннай небяспецы. Тыя пасечаныя, паўжывыя целы тваіх братоў яскрава сведчаць аб гэтым. А вы ж яшчэ іх, паўжывых, закопвалі ў ямы.

Бацька, хаця і нябожчык, гэта пэўны клопат. Быў мёртвы, ажыў — гэта таксама небяспека.

Іншая справа, што ты адчула ў сабе тую магутную сілу, якая змагла ажывіць мёртвага ўжо бацьку. Магчыма, сапраўды ты настолькі моцны чалавек, што адолееш усе перашкоды.

Астрон

## ДВУХЛІТАРНАЯ КРЫЖАВАНКА

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | | 2 | | 3 | | 4 |
| | | 5 | 6 | | | |
| 7 | 8 | | | | 9 | |
| | 10 | | | | | |
| 11 | | | | | 12 | 13 |
| | | 14 | | 15 | | |
| 16 | | | | 17 | | |

**Гарызантальна:** 1. паслушэнства, падпарадкаванне, 3. горад на поўдні Швейцарыі, 5. горад у Данбасе, 7. міжземнаморская выспа, 9. парыжская рака, 10. шырокая шашэйная дарога, 11. невытлумачальная з'ява, выкліканая чарадзействам, 12. самаход з Тальцці, 14. Трокі сёння, 16. 0,001 мм, 17. чорна-шэрая птушка.

**Вертыкальна:** 1. жывуць у Польшчы, 2. парады, павучанне, 3. горад на захадзе Украіны, 4. новая вестка, 6. яшчэ не галеча, 8. не ілжа, 9. гняздо ў куратніку, 11. хваля пасля падводнага землетрасення, 13. раўнінная ўпадзіна паміж гор, 14. крэсла караля, 15. паўднёвае пладовае дрэва.

(Ш)

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, разыграем кніжныя ўзнагароды.

Адказ на віраванку з 3 н-ра: каталог, Гарадок, дабытак, баталія, Іспанія, ліманад, мінамёт, ёмкасць, Стралец, шакалад, Нараўка, рагатка.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Мікалаю Сазановічу** з Навінаў-Вялікіх і **Аляксандру Дабчынскаму** з Беластока.

## Народныя прыкметы аб пагодзе

Калі не будзе зімою бела, то не будзе ўлетку зелена.

Снегу навее — хлеба прыбудзе, вада разальецца — сена набярэцца.

Калі ў студзені дажджы — дабра не жджы.

Студзень імглісты — мокры год; студзень халодны — позняя вясна і дажджлівае лета.

Студзень мяцее — ліпень зальє.

Калі зімой загрыміць гром — будуць віхуры.

Калі зімою на рацэ вада раптам выступіць на лёд і то не ў адлігу — чакай вялікага пацяплення або дажджу.

У мароз шыбы ў вокнах пацеюць — на адлігу.

У моцныя маразы пеўні рана спяваюць на цёплую і памяркоўную пагоду.

Сабакі качаюцца зімою на снег.

Кот да печы ціснецца або ляжыць, згарнуўшыся ў клубок, — будзе сцюжа. Кот дзярэ пазурамі дзверы або ножкі стала — на вецер або снег; сцяну — на непагадзь; спіць моцна, лежачы дагары — на цяпло.

Захад сонца ў чырвані — будзе вецер, ясна-жоўты — будзе дождж.

Зоркі ў тумане — на дождж або снег.

Калі без ветру дым з коміна сцелецца па зямлі, то зімою чакай снегу.

Калі ўдзень ясна, але пад вечар воблакі пачынаюць згушчацца і таўсцець, то будзе перамена пагоды.

*Падборку зрабіў Янка Целушэцкі*

## ПАРНАСІК

### Пералом

Люты марозіць-смаліць:  
Скора сакавік прыляціць —  
Вясны пачатак,  
Будзе парадак.  
Гэта зробіць прырода —  
Вялікая сіла, не мода.  
Прынясе цяпло,  
Спакой і дабро.  
Мароз уцячэ —  
Цяпер ён пячэ.  
Жывое ўсё прачнецца,  
Жыццё распачнецца.  
Будуць вяртацца птушкі,  
З-пад лістоўя вылезуць мушкі.  
Звер лясны з палёгкай уздыхне —  
Той, што цярпеў і не быў у сне.  
Птушкі, звяры цяжка зіму пражылі,  
Але час і шлях мужна адбылі.  
Доля іхняя была незайздросная,  
Нам здаецца — злосная.  
Ды яны больш церпялівыя  
І не баязлівыя.  
Належаць да часткі прыроды —  
Хай множацца іхнія роды.

**Мікалай Панфілюк**

### Шумяць

Шумяць вербы ды бярозы  
Вецер іх калыша.  
Ціхенька яны шчабечуць:  
„Ёсць у дзяржаве ліха.  
Чаму столькі нянавісці  
Гэты людзі маюць?  
Толькі адзін для другога  
Ногі падстаўляюць,  
Каб другога загубіці,  
Сабе ўзяць вярхушку  
Затуманіці людзей,  
Зрабіць калатушку.  
Добра ты калісь рабіў,  
Цяпер усё забылі  
Ды і гэты галадранцы  
Цябе загубілі.  
Калі быў ты крыкуном  
І добранька стараўся  
То да ўлады пры „Салідарнасці"  
На вярхушку ўзняўся".

**Мікола Лук'янюк**

## Цікавая прапанова

Сустрэў я нядаўна прыяцеля з Дабрывады, Валодзю Яўдасюка. Даўно з ім не бачыўся. Таму і гаворка ў нас завязалася аб мінулым і цяперашнім.

— Ведаеш, — кажа Валодзя, — у нас многа змянілася. Здаецца, нядаўна, а ўжо некалькі гадзікаў як на пенсіі сяджу. Пра чыгунку забыўся, зараз у Гайнаўцы па нашай канторы след прастыў...

— Ды як там у Дабрывадзе? — пытаю.

— Па даўнейшаму. Школа пустуе. Толькі ў краме тавараў маем удосталь. Забеспячэнне як ніколі. Калі нейкі тавар выйдзе, дык на гэтае месца наш прадпрымальнік прывозіць іншы тавар, нават у той жа дзень. Малайчына з гэтага Янкі Ліпінскага!

— А як з цэнамі?

— Крыху даражэй, чым у Кляшчэлях ці Гайнаўцы. Аднак усё на месцы. Часу не трацім на паездку цягніком... А што ў цябе? Кажуць, у „Ніву" пішаш?

— Дык крыху займаюся...

— Ты, Валодзька, напішы, каб у Кляшчэлях адкрылі майстэрню для праверкі аўтамабіляў. А то ў Гайнаўку з трактарам трэба цягнуцца. Далекавата!

Добра я разумеў у чым справа. Сам раней думаў закрануць гэтую тэму. А справа маецца вось так:

Каб зарэгістраваць нейкі сродак транспарту, неабходнае пасведчанне аб яго тэхнічнай прыгоднасці. Гэтым займаюцца спецыялісты ў секцыях абслугі аўтамабіляў. Даўней паслугі гэтыя выконвалі Кляшчэлеўскі ПОМ. Пасля яго ліквідацыі, на прагляд аўтамабіля, трактара ці матацыкла трэба ехаць трыццаць кіламетраў у Гайнаўку. Такім чынам трацяцца надарэмна час і грошы на паліва.

Ці нельга было б адкрыць такую ўстанову ў Чаромсе ці Кляшчэлях? Мне здаецца, што механікаў-спецыялістаў маем удосталь у сваёй акрузе. Трэба крышачку падумаць.

Калісь была праблема з аўтазапраўчанай станцыяй у Чаромсе. Амаль на кожным сходзе жыхароў пасёлка ставілася гэтая справа. Зараз у Чаромсе-вёсцы пабудавалі АЗС. Можна ў ім не толькі заправіць машыну бензінам ці саляркай, але можна таксама купіць розныя будаўнічыя матэрыялы, піва ці папяросы, заправіць газам балон ці аўтамабіль.

Як бачым, усё можна зрабіць. Трэба толькі мець крыху добрай волі і грошай. Спадзяюся, што і ў гэтай справе знойдзецца адважны чалавек з адпаведнымі ведамі і выручыць жыхароў Чаромхаўскай і Кляшчэлеўскай гмінаў з іхніх аўтамабільных клопатаў.

**Уладзімір Сідарук**


# Ніва

**"Niwa"**
ul. Suraska 1, 15-950 Białystok, skr. poczt. 149, tel. 421-033.

Druk: "ORTHDRUK", Białystok, ul. Składowa 9.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**
Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Мірановіч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:**
**Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".**
Старшыня Праграмнай рады — Валянцін Сельвясюк.

Prenumerata.

1. Termin wpłat na prenumeratę na III kwartał 1996 r. upływa 5 czerwca 1996 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały "Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na III kwartał wynosi 9,10 zł (91 000 starych zł).

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Warszawa, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa.

Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 1,45 zł (14 500 st. zł), a kwartalnie — 18,85 złotych (188 500 st. zł). Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika "Niwa", Białystok, ul. Suraska 1, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 370406-207917-132.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

# Жаніх

Па-над рэчкай, над вадою
Ходзіць Ваня з барадою.
Ён не меў калі пабрыцца.
Думаў: як тут ажаніцца,
Як за свата каго ўзяці
І гарэлкі як нагнаці,
Дзе пшаніцы намалоці,
Каравай каб пух у році.
„Пайду да дзядзькі Сцяпана,
У нас удае ён пана.
Трэба з ім разгаварыцца,
Ён падкажа як жаніцца".
Зайшоў да Сцяпана, дзядзькі,
„Добры вечар" кажа,
Паўлітроўку на стол ставіць,
Яна язык развяжа.
Сцяпан хітра павярнуўся,
Падміргнуў да жонкі:
„Давай сала прыкусіці,
Паспытаць цукроўкі".
А як выпілі па чарцы,
Весялей ім стала.
Па другой як пацягнулі —
Гутарка паўстала.
Дзядзька кажа: „Слухай, Ваня,
Калі хоч жаніцца,
Трэба бараду абрыці,
А потым памыцца".
Слухаў Ваня свайго дзядзьку
Дый развесяліўся.
Бараду сабе абрыў,
З Маняй ажаніўся.

**Мікола Лук'янюк**

# Ітанна, і хітра

Дамавіны дзед зрабіў
І сабе, і жонцы,
На гарышча зацягнуў —
Ветрык там і сонца.
Мусіць смерці ён чакаў
З бабкаю, няйначай.
Дамавіны зяць украў
І завёз на дачу.
На гарышча дзед залез —
Зразумець не можа...
Зяць на дачы змайстраваў
Туалет з тых дошак.

**Сяргей Чыгрын**

# НІЎКА

*— Падзелімся па справядлівасці. Мне чатыры колы і табе таксама чатыры.*

**Мал. М. Гіргеля**

# ШРАЦІНКІ

„У былыя часы выхаванцы пачыналі супрацiўляцца з 12—14 гадоў, а зараз — у 2—4 гады".

„На жаль, гурткі па інтарэсах наведваюць добрыя дзеці".

„Калі вечарам наведаць установы культуры, то адразу ўбачыш лаянку, п'яных дзяцей і іншае хамства".

*(З дакладаў на педсавеце)*
*„Вожык"*

# СМЕХ У САНАТОРЫІ

**"Даўціпы" Андрэя Гаўрылюка**

У судзе:
— Ці вы, абвінавачаны, прызнаецеся, што на паляванні падстрэлілі гаёвага Антона?
— Прызнаюся. Гэта факт...
— А што вы можаце сказаць у сваю абарону?
— Прозвішча гаёвага — Заяц, Высокі суд.

***

Размаўляюць дзве актрысы:
— Мой муж катэгарычна заявіў мне, каб я пакінула сцэну.
— О-о-о!.. Відаць намовіла яго да гэтага публіка.

***

— Як паліцыянты сеюць жыта?
— Адзін сыпле зярняты, а два яго нясуць, каб той іх не затаптаў.

***

Асла, які не хацеў цягнуць каляску, вазак неміласэрна бічаваў. Пабачыла гэта ўражлівая на крыўду жывёл жанчына і папрасіла перастаць біць. Вазак яе аблаяў і біў далей. Тады яна звярнулася да паліцыянта за дапамогай. Паліцыянт спісаў пратакол і заявіў, што падасць справу ў суд. Вазак пачаў плакаць, бо не меў грошай.
— Добра, — сказаў паліцыянт, — перапрасіце гэтую жанчыну і не біце больш асла, тады вам дарую.
— Вельмі вас, пані, перапрашаю, — раскаяўся вазак. — І цябе, асёл, таксама; ніколі б цябе не ўдарыў, калі б ведаў, што тваё сябры ў паліцы.

***

Два сябры спрачаюцца, чый сабака мудрэйшы:
— Мой такі мудры, што калі вяртаецца са шпацыру, сам націскае кнопку званка.
— Мой не мусіць гэтага рабіць — у яго свае ключы.

***

Сустрэліся тры сябры, якія разам служылі ў войску:
— Пабягу па гарэлку! — усклікнуў першы.
— А я па закуску, — сказаў другі.
— А я па швагра, — заявіў трэці.

# З нашага жыцця

Марцін працаваў майстрам у адным гарадскім прадпрыемстве. Зарабляў нядрэнна. Яго жонка была краўчыхай. Працавала дома; мела шыльду. Сужонства жыло згодна. Якое ж было здзіўленне Марціна, калі яго сябар Міша расказаў, што жонка здраджвае яго з адвакатам.

— Ой! — засмяяўся Марцін, — нічога дурнейшага ты не мог прыдумаць: адвакат схоча такую простую жанчыну!? Калі б мая жонка была нейкай сакратаркай або кіраўнічкай у нейкім прадпрыемстве, тады я табе паверыў бы.

— Дурніца ты, — махнуў рукою Міша, — твая Зіна прывабная жанчына. Калі мне не верыш, дык пастарайся быць у ляску за горадам каля таго дуба, што пасярод кустоў, у пятніцу, недзе так каля восьмай раніцы. Яны там кахаюцца да знямогі. Ён ёй за гэта добра плаціць.

Марцін зрабіў так, як сказаў яму Міша. У пятніцу рана, замест ісці на працу, пайшоў у лес і ўзлез на дуб. Доўга чакаць не давялося. Паявілася жонка, а за ёю і найлепшы ў горадзе адвакат. Прывіталіся.

— Як будзем кахацца? — спытала яна.

— Па-звярынаму, — адказаў ён.

Зіна вырвала жменю травы і стала прыпрашаць: „Еш, мой коніку, траву, еш!"

У Марціна ад уражання аж зляцеў бот. Калі адвакат згледзеў, што на дрэве сядзіць муж каханкі, кінуўся ў кусты.

— Палахлівы твой конік! — сказаў Марцін жонцы, злазячы з дрэва.

***

— Скажы мне бабуля, што такое каханне, — просіць пяцігадовы Марак.

— А бадай цябе, — здзіўляецца бабуля, — такі малы, а пра каханне гаворыць!

— Але скажы, што гэта такое, — настойвае малы.

— Гэта такое штосць, без чаго нельга жыць, — адказала бабуля.

Праз тыдзень прыходзіць Марак і кажа:

— Я закахаўся насмерць у шакаладку „Milky-Way" — давай мне бабуля на яе грошы, бо магу памерці.

***

— Адкуль памерла мая жонка, — кажа Віця, — грошы не маюць для мяне ніякага значэння. Шмат іх у мяне, але гэта мяне не цешыць.

— Зайграй у „таталётак", тады будзе весялей.

**Аўрора**

# СЕНТЭНЦЫІ

Веды — макавае зерне
ў моры нязведання.
***
Ведаць — бачыць.
***
Сляпая вернасць —
згуба самога сябе.
***
Дзе ёсць жыццё,
там няма свабоды.
***
Невялікая вартасць таго,
што мне нямілае.

**Барыс Руско**

# САРДЭЧНЫЯ ТАЙНЫ

Дарагое Сэрцайка! Растлумач мне, калі ласка, ці можна жыць нармальна ў сям'і, калі муж і жонка жывуць пасобку, а нават часамі ў іншых краінах ці прынамсі гарадах. Мяне гэта пытанне заўсёды хвалявала, бо я гэтага ніяк не магла зразумець. Усё ж сям'ю цэментуе супольны дом, супольны ложак, выхаванне дзяцей, нават супольны стол. Праўда, Сэрцайка?! Як жа яны так могуць жыць?

У мяне ўжо чатыры знаёмыя павыходзілі такім чынам замуж. Адну мой сябра прывёз з Расіі. Але пакуль яна сюды прыехала (канчала вучобу ва ўніверсітэце), дык яе мужанёк „перабраў" тут усіх дзяўчат. І, уявi сабе, што нават яны ведалі пра тое, што ён жанаты, а ішлі да яго.

Ну, і што, думаеш, добра яны жылі, калі ўжо былі разам? А дзе там! Так і павялося, што ён адно хадзіў сваімі дарожкамі, а яна сядзела і плакала ў хаце. Урэшце выйшаў з гэтага ўсяго вялікі скандал, у выніку якога яны вымушаны былі выехаць у іншы горад. Не спрыяла ім тая доўгая разлука.

Другая сяброўка з працы выйшла замуж за чэха, што жыў у Празе. Яна тут, а ён — там. Сустракаліся раз у месяц, а найчасцей — у святы. Яна працавала на сябе, ён — на сябе. У яе свой дом, у яго — свой. Так жылі яны гадоў дзесяць, а пасля яна не вытрымала і пераехала да яго. Не ведаю, мо сядзела тут так доўга, бо хацела выпрацаваць нейкую рэнту ці пенсію...

Яшчэ адна знаёмая жыла ў Амерыцы. Прыехала яна сюды, узялі шлюб, а ён туды ехаць не хоча. Усё ўпіраўся, каб яна пераязджала да яго. Нямілая яму была чамусьці тая Амерыка, на сваёй зямлі было яму лепш, хоць можа і жылося не так багата. Кахалі адзін другога, ну, не вытрымаў чалавек, паехаў да жонкі. Колькі ж ужо можна было выдаваць грошы на тыя тэлефоны! Ды і жонка хацела дзяцей урэшце мець. А, думаеш, ён такі шчаслівы? Піша часамі, што ўсё яшчэ адчувае сябе нулём.

А вось цяпер яшчэ адна мая знаёмая рашылася на такі крок. Яна — з Беларусі, ён — з Беласточчыны. Не хоча яна там кінуць сваю цікавую працу, дык прыязджае да мужа раз у два тыдні. Дзякуй Богу, што гэта недалёка, можа пад'ехаць то адно, то другое, сустрэцца. Інакш усё ўжо магло б кепска скончыцца. Як ты, Сэрцайка, думаеш, ці варта так рабіць, каб пасля мець адно клопаты?

Ліля

*Ліля! Усё ж ты ў сваіх развражаннях не бярэш пад увагу адной, найважнейшай справы — пачуцця кахання. Людзі сустракаюцца ў розных акалічнасцях і ў розных месцах зямнога шара. А сэрцу ж не загадаеш! Прыходзіць каханне, тады найчасцей пачынаюцца клопаты. Многім даводзіцца ў такіх сітуацыях змяніць усё сваё ранейшае жыццё, змяніць месца жыхарства, кінуць радню і блізкіх сяброў, змяніць нават свой прафесійны занятак.*

Некаторым гэта ўдаецца зрабіць даволі добра. Жанчыне шмат лягчэй прыстасавацца да новых умоў. Гэта здараецца, калі яна пераязджае ў яго краіну. Цяжэй адаптавацца мужчыне.

Вельмі часта людзі застаюцца жыць у сваёй краіне менавіта з-за працы. У сябе яны часта маюць такую працу, якая дае ім сапраўднае задавальненне, а ў іншай краіне яна не будзе мець рацыі быту. Гэта датычыць асабліва настаўнікаў, журналістаў, гісторыкаў — наогул людзей, якія закончылі гуманітарныя факультэты.

А яшчэ ж пры ўсім гэтым трэба добра ведаць мову тае краіны, у якую пераязджае чалавек і якая мае стаць яго новай краінай.

Так ці інакш, хаця жыццё будзе нялёгкае, у такіх сітуацыях трэба рашыцца некалі на супольнае жыццё. Цягнуць гэта ў вечнасць немагчыма.

Гэта так, як ты казала: яднае супольны стол і пасцель. А калі ўзяць яшчэ пад увагу, што людзі маюць розныя тэмпераменты, дык і зусім страшна пра доўгую разлуку падумаць.

**Сэрцайка**